Жыве Беларусь!



# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№610, Кастрычнік-Сьнежань
2014 г. Год выданьня 65

## Шаноўныя чытачы!

Перад вамі апошні ў гэтым годзе нумар нашай газэты за лістапад-сьнежань. У лістападзе і сьнежні мы адзначаем важныя па сваёй значнасьці ў беларускім адраджэнскім календары Дзяды і Дзень герояў - угодкі Слуцкага збройнага чыну. Гэтыя падзеі мы заўсёды адлюстроўваем на старонках нашай газэты і сёлета яны займаюць тут сваё пачэснае месца.

Без перабольшваньня можна сказаць, што сьнежань - самы любімы месяц для многіх. Гэта час перад Калядамі, перад Нараджэньнем Хрыстовым, час чаканьня цуда і ягонага ажыцьцяўленьня. Разам з Божым нараджэньнем мы таксама нараджаемся да новага жыцьця ў наступным годзе. Мы падсумоўваем год адыходзячы і будуем пляны на новы каляндарны перыяд, на новы віток нашага жыцьцёвага поступу. Што прынясе нам новы, 2015, год? Ці перапыніцца вайна ва Украіне, ці не разгарыцца зь яе сусьветны пажар? Што чакае нашу Бацькаўшчыну, ці ня кіне туды свае бандыцкія войскі Расея, каб узяць рэванш за відавочную паразу ва Украіне і дзеля захаваньня свайго "балкону" на мяжы з Эўразьвязам? Палітычная сытуацыя каля межаў Беларусі не выклікае аптымізму. Так, як і ўнутрыпалітычнае і эканамічнае становішча ў краіне напрыканцы году.

А трэба жыць, разьвівацца, будаваць, арганізоўвацца, зьбіраць сілы, бо толькі так можна пераадолець усе цяжкасьці і праблемы і забясьпечыць будучыню. Гэта важна сёньня як для краіны, так і для беларускай дыяспары ў сьвеце. Шмат стратаў прынёс сплываючы год і для беларускага замежжа, адбываюцца негатыўныя працэсы, ідзе разбурэньне адбудаванага грамадзкага жыцьця ў выніку памылак, а часам і пад уплывам зьнешніх сілаў, каму муляюць незалежныя беларускія асяродкі ў замежжы.

Наша апора і наша сіла не ў безаглядным аптымізме і беспадстаўнай веры, а ў нашай цьвёрдасьці, стойкасьці, непахіснасьці, у цьвярозымі і крытычным бачаньні праблемаў і небясьпекаў, ва ўменьні мабілізавацца дзеля іх пераадоленьня. Хочацца спадзявацца, што мы, беларусы, дома і на выгнаньні будзем здольныя на такія паводзіны і дзеяньні.

Дарагія чытачы, ад нашага маленькага калектыва рэдакцыі сардэчна віншуем вас з надыходзячымі Калядамі і Новым годамі, зычым вам аптымізму і ўсялякага спрыяньня ў жыцьці кожнага. Гэты год для нас быў поўным выпрабаваньняў і цяжкасьцяў, даводзілася выпускаць здвоеныя нумары газэты. Хацелася б, каб у наступным праца ішла больш пасьпяхова, але гэта ня можа стацца бяз вашай дапамогі і ўдзелу, памятайце, што робіцца яна цалкам на грамадзкіх пачатках, людзьмі, якім, як і кожнаму з вас, трэба недзе зарабляць на жыцьцё. Заставайцеся з намі ў наступным годзе! Да новых сустрэчаў!

*Рэдакцыя*



## Заява Рады Беларускае Народнае Рэспублікі з нагоды 20-годзьдзя Будапэшцкага мэмарандуму

Дакладна дваццаць гадоў таму, 5 сьнежня 1994 г. у Будапэшце быў падпісаны "Мэмарандум пра гарантыі бясьпекі ў сувязі з далучэньнем Беларусі да Дамовы пра нераспаўсюд ядравае зброі". Паводле гэтага дакументу Рэспубліка Беларусь узяла на сябе абавязак вывесьці з сваёй тэрыторыі ядравую зброю, якая была разьмешчаная на тэрыторыі Беларусі кіраўніцтвам СССР.

Узамен гэтага Расея, Вялікая Брытанія і ЗША бралі на сябе, сярод іншага, наступныя абавязкі:

- Паважаць незалежнасьць, сувэрэнітэт і існуючыя межы Рэспублікі Беларусь,

- Устрымлівацца ад пагрозы сілы або яе ўжываньня супраць тэрытарыяльнае цэласьці Рэспублікі Беларусь

- Устрымлівацца ад эканамічнага прымусу, скіраванага на тое, каб падпарадкаваць сваім уласным інтарэсам ажыцьцяўленьне Рэспублікай Беларусь правоў, якія належаць яе сувэрэнітэту,

- Дабівацца неадкладных дзеяньняў Рады Бясьпекі ААН дзеля дапамогі Рэспубліцы Беларусь у выпадку, калі Рэспубліка Беларусь станецца ахвяраю акту агрэсіі ці аб'ектам пагрозы агрэсіі.

Аналягічны мэмарандум быў падпісаны з Украінаю і Казахстанам.

Рэспубліка Беларусь, Украіна і Рэспубліка Казахстан цалкам выканалі свае абавязкі згодна з Мэмарандумам.

Аднак падзеі 2014 года – перадусім, незаконная збройная анэксія Крыма і распальваньне вайны ў Данэцкай і Луганскай абласьцях Украіны – явілі сабою сытуацыю, у якой Расейская Фэдэрацыя бясспрэчна парушыла ўсе пункты Будапэшцкага мэмарандуму з Украінаю, акрамя тых, якія тычацца выкарыстаньня супраць Украіны ядравае зброі.

Гэта важны нэгатыўны прэцэдэнт для Беларусі, якая дэ-факта даўно зьяўляецца аб'ектам эканамічнае агрэсіі з боку Расеі і чые сілавыя структуры ў значнай ступені кантралююцца Расеяю. Сувэрэнітэт Беларусі, а таксама бясьпека на эўрапейскім кантынэнце ўвогуле, застаюцца пад вялікай пагрозаю ў сувязі з агрэсіўнай рэваншысцкай палітыкай сучаснага расейскага кіраўніцтва і асабіста прэзыдэнта Ўладзіміра Пуціна. Грубае парушэньне і фактычная дэнансацыя Будапэшцкага мэмарандуму з боку Расейскае Фэдэрацыі шматкроць падвысілі гэтую пагрозу.

Рада БНР заклікае міжнародную супольнасьць, і перадусім Вялікую Брытанію і ЗША як краіны, што таксама падпісалі Будапэшцкі мэмарандум, а таксама Францыю, якая далучылася да гарантыяў бясьпекі Ўкраіне:

- Аказаць усю магчымую падтрымку Ўкраіне ў абароне яе сувэрэнітэту і тэрытарыяльнае цэласьці. У тым ліку гэткая падтрымка павінна ўключаць вайсковую і матэрыяльную дапамогу, а таксама экспэртную дапамогу ўраду Ўкраіны пры распрацоўцы і рэалізацыі праграмы рэформаў;

- Актыўна спрыяць дэмакратызацыі палітычнага рэжыму ў Рэспубліцы Беларусь. Менавіта рэжым неабмежаванай асабістай улады Аляксандра Лукашэнкі зьяўляецца галоўнай пагрозаю для незалежнасьці Беларусі.

Спасылаючыся на пункты "Мэмарандуму аб заходах для забесьпячэньня незалежнасьці Беларусі", падпісанага 3 лістапада 2012 г., Рада БНР заклікае ўсе беларускія палітычныя сілы да зьдзейсьненьня ўсіх магчымых міжнародных заходаў дзеля гарантаваньня незалежнасьці Беларусі ў становішчы, калі наяўныя гаранты паказваюць сваю недастатковасьць.

# Дзяды - 2014

Традыцыя адзначэньня Дзядоў - памінаньня продкаў не была перапыненая і ў гэтым складаным на палітычныя падзеі годзе. Адзначаўся гэты дзень як у Беларусі так і ў беларускім замежжы.

У Менску адбыліся дазволеныя ўладамі шэсьце ў Курапаты і мітынг, прысьвечаныя Дню памяці продкаў



## Дзяды ў Чыкага

1 лістапада ў Беларускай Царкве Сьвятога Георгія ў Чыкага сабраліся мясцовыя беларусы, каб разам азначыць Дзяды. Як паведаміла нам Марыя Высоцкая, ўсё адбылося ў прыемнай сяброўскай атмасфэры: "Мы запалілі зьнічы за нашых продкаў і Радзіму, павячэралі і паразмаўлялі".

Адметна, што ў Чыкага гэта сьвята абрастае ўласнымі традыцыямі і прыцягвае ўсё новых людзей, якія потым становяцца актыўнымі ўдзельнікамі дзейнасці суполкі.

Людзі не не пашкадавалі часу, даехалі да царквы Св. Георгія - а некаторым ехаць было даволі далёка - і ўліліся ў дружную сям'ю чыкагскіх беларусаў, памінаючых сваіх продкаў, усіх тых, каго трэба памянуць ў такі дзень.

## Дзяды ў Крыме

Старшыня беларускай суполкі ў Севастопалі сп. Валер Барташ даслаў нам паведамленьне, што нават зараз у сёньняшняй складанай сытуацыі ў Крыме не зарастае беларуская сьцежка на старадаўні могільнік ў Ялце, дзе пахаваны Максім Багдановіч.



# Дзень Герояў - 2014



*Па добрай традыцыі ўсясьветнае беларускае грамадзтва са Сьвятам вітала сп. Івонка Сурвілла - старшыня Рады БНР:*

Паважаныя Суродзічы, Дарагія Сябры!
«Няхай памяць натхняе нас...»

Словы гэтыя прамовіў на сьвяткаваньні канадыйскага Дня Герояў — 11 лістапада — прадстаўнік Каралевы ў Канадзе Дэвід Лойд Джонсан.

З нагоды нашага Дня Герояў, у гэтыя 94-я ўгодкі першага дня Слуцкага Збройнага Чыну, віншую ўсіх вас з нашым вялікім нацыянальным сьвятам і жадаю, каб памяць пра нашых герояў дала нам сілу давесьці да перамогі пачатае імі змаганьне за волю свае зямлі.

Случакам не было патрэбы задумвацца, ад каго бараніць сваю незалежную дзяржаву. Да сямідзесяцігадовага прамываньня мазгоў нашага паняволенага народу ўсім было ясна, адкуль ішла пагроза.

Дарагія сябры, памятайма Случакоў. Памятайма з удзячнасьцю ўсіх нашых продкаў, якія на працягу нашае гісторыі баранілі наш край. Дзякуючы іхняй мужнасьці мы яшчэ жывем і ведаем, хто мы.

Жыве Беларусь!

*Івонка Сурвілла, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.*
*Лістапад 2014.*

З нагоды Дня герояў віншавальны ліст амэрыканскім беларусам даслаў сп. Зянон Пазьняк. У ім гаварылася:

"У лістападзе-сьнежні 1920 года слуцкія беларускія дабраахвотныя вайсковыя аддзелы, сфармаваныя з сялян, выступілі ў абарону Беларусі супраць наступаючай Чырвонай арміі бальшавікоў і цэлы месяц трымалі гераічную абарону перад расейскай армадай.

Гэтая падзея мусіць быць заўсёды ў нашых сэрцах. Яна ёсьць значнай сама па сабе сваім зьместам барацьбы за волю і незалежнасьць Айчыны. Але сёньня, калі цёмныя сілы агрэсіўнай Расеі напалі на вольную Украіну, і над Беларусяй згушчаецца небясьпека агрэсіі і мацнее пагроза нашай дзяржаўнай незалежнасьці з боку імпэрыялістычнай Расеі, барацьба слуцкіх змагароў зьяўляецца для нас найперш прыкладам у дзеяньнях па абароне Радзімы. Памятайма заўсёды пра гэты высакародны чын барацьбы і будзьма гатовыя да збройнага змаганьня за нашу вольную Бацькаўшчыну Беларусь".

У Беларусі памяць слуцкіх паўстанцаў ушанавалі тайна і ціха

Звычайна ў апошнюю суботу лістапада грамадзкія актывісты наведвалі мясьціны, зьвязаныя з памяцьцю Слуцкага паўстаньня — Грозава, Семежава ды Вызьну, а ў Слуцку праводзіўся мітынг памяці. Але сёлета з нагоды 94-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну Слуцкі райвыканкам ня даў дазволу на правядзеньне мітынгу 29 лістапада на пляцоўцы каля Слуцкага краязнаўчага музэю.Таксама не былі дадзеныя і дазволы на правядзеньне ўрачыстых сходаў і ў іншых месцах, зьвязаных з памяцьцю Слуцкага паўстаньня. Старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч паведаміў, што, каб не дражніць улады, было вырашана ціха, бязь лішняга шуму і агалоску, ушанаваць памяць герояў:

«Мы на дзьвюх машынах праехалі сёньня па мястэчках, у якіх стаялі раней ці знаходзяцца зараз памятныя крыжы ў гонар слуцкіх паўстанцаў: гэта Грозава, Семежава ды Вызна, якая цяпер называецца Чырвонай Слабадой, запалілі зьнічкі, усклалі кветкі".




У Нью-Ёрку Бруклінскі аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ўрачыста адзначыў угодкі Слуцкага збройнага чыну 7 сьнежня ў царкоўна-грамадзкай залі на Атлянтык Авэню, 401. Сябры БАЗА і прысутныя госьці заслухалі прывітаньні ад сп. Івонкі Сурвіллы і сп. Зянона Пазьняка. Далей пра падзеі тых часоў на Случчыне распавяла сп. Алена Радзеўская, выпускніца ЭГУ. Яе апoвяд заля прыняла з вялікай увагаю і нават былі просьбы ад прысутных працягваць



даклад, бо зь яго даведаліся шмат новых дэталяў пра падзеі і лёсы герояў таго адважнага чыну. Істотным дапаўненьнем да рэфэрату сп.Алены стаўся прапанаваны далей дакумэнтальны фільм. Прысутныя не маглі ўстрымацца ад таго, каб не выказаць свае думкі, не падзяліцца ўражаньнямі. Імпрэза сканчылася выступамі з залі і абмеркаваньнем чутага і пабачанага.

*Працяг на 3-й бачыне*

# Дзень Герояў 2014

*Працяг з 2-й бачыны*

Трэба спадзявацца, што імпрэза ня толькі дала магчымасьць ушанаваць геraічны учынак Случчакоў, але і была важнаю дзеля больш глыбокага разуменьня гісторыі змагання за незалежнасьць нашай краіны, асабліва для нашай моладзі.

Дзень герояў быў таксама ўрачыста адзначаны 7 сьнежня ў Нью Джэрзі, дзе беларуская грамада арганізавала сьвяткаваньне з літургіяй і паніхідай у памяць па загінуўшых героях і ўрачыстай акадэміяй. Пасьля імпрэзы ўдзельнікі Сьвята паклалі вянкі да помніка беларускім ваярам-героям на могілках Божае Маці Жыровіцкае ў горадзе East Brunswick.

Таварыства беларускай культуры ў Літве адзначыла гадавіну Слуцкага збройнага чыну адмысловай імпрэзаю. Сп. Хведар Нюнька павіншаваў прысутных і зачытаў зварот Прэзыдэнта Рады БНР Івонкі Сурвіллы .

Затым слова ўзяў сябра Рады ТБК Валер Радзюкевіч, які распавёў пра асаблівую значнасьць Слуцкага збройнага чыну ў гісторыі барацьбы за незалежнасьць. З прамовамі выступілі госьці зь Менска Галіна Сіўчык і Вячаслаў Піліпук.

Зьмястоўны даклад пра Пятра Сергіевіча зрабіў Алег Аблажэй .

Пасьля афіцыйнай часткі, за кубкам кавы ці гарбаты яшчэ доўга сябры абменьваліся думкамі пра бягучыя справы і праблемы.



Выступае Галіна Сіўчык

# Новая кніга пра дзейнасьць Рады БНР



Наталля Гардзіенка, Лявон Юрэвіч. Рада БНР (1970—1982): Падзеі і дакументы. Мінск: Кнігазбор, 2014. — 309 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 23)

У сэрыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" выйшаў новы том пра Раду БНР.

Летась да 110-годзьдзя з дня нараджэньня першага паваеннага Прэзыдэнта Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Міколы Абрамчыка ў кніжнай сэрыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" пабачыла сьвет кніга "Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы". Цяпер жа з друку выйшаў наступны том, які стаў яе лягічным і храналягічным працягам, - гэта кніга "Рада БНР (1970–1982): Падзеі і дакумэнты". Абодва выданьні сталі вынікам сумеснай працы гісторыкаў і архівістаў Натальлі Гардзіенкі і Лявона Юрэвіча і зьявіліся дзякуючы Згуртаваньню беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" і Беларускаму інстытуту навукі і мастацтва (БІНіМ).

Кніга, што выйшла летась, выклікала жывую дыскусію, на яе зьявілася некалькі рэцэнзій. У прадмове да новага выданьня ўкладальнікі выказваюць падзяку за гэтыя водгукі і адказваюць на некаторыя заўвагі. Таксама ў прадмове да кнігі адзначаецца, што дзейнасьць Рады БНР пры Вінцэнце Жук-Грышкевічу значна лепш задакументаваная. Гэта зрабіла пошукі матэрыялаў для кнігі працейшымі, калі параўноваць з працай над леташнім выданьнем. Трэба падкрэсьліць, што ў выданьні сабрана шмат дакумэнтаў, якія раней шырока не публікаваліся, і гэта надае кнізе дадатковую каштоўнасьць.

Натальля Гардзіенка гаворыць: "Новая кніга прысьвечаная перыяду дзейнасьці на пасадзе Старшыні Рады БНР канадыйскага беларуса Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Структура новага выданьня падобная да папярэдняга: ёсць гістарычны нарыс, дзе разглядаюцца асноўныя напрамкі дзейнасьці Рады БНР у згаданы час, далей ідзе публікацыя пратаколаў пасяджэньняў Прэзідыуму ды Сэсіяў Рады БНР, а таксама дакумэнтаў і ліставаньня дзеячаў. Ёсьць бібліяграфія ды хроніка дзейнасьці Рады БНР.

Прадстаўлены ў нашай новай кнізе пэрыяд цікавы як адметнымі зьнешнімі ўмовамі функцыянаваньня Рады БНР (актывізацыя беларускага грамадзка-культурнага жыцьця на Захадзе ды перыяд "разрадкі" ў міжнародных дачыненьнях), так і ўнутранымі зьменамі, што адбываліся ў самой Радзе БНР".

Кнігу "Рада БНР (1970–1982): Падзеі і дакументы" ўжо можна набыць у сталіцы ў Цэнтральнай кнігарні (пр-т Незалежнасьці, 19) і Акадэмкнізе (пр-т Незалежнасьці, 72). Неўзабаве яна з'явіцца і ў іншых беларускіх кнігарнях.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# Нечаканая заява мітрапаліта Паўла

15 сьнежня ў Менску прайшоў чарговы Менскі епархіяльны сход, ці інакш — Сход духавенства Менскай мітраполіі. Прымеркаваны ён быў да двух юбілеяў - 25-годзьдзя стварэньня Беларускага Экзархата і 30-годзьдзя ўстанаўленьня сьвяткаваньня Сабору Беларускіх сьвятых.

Мітрапаліт Менскі і Заслаўскі Павал напрыканцы свайго выступу нечакана заявіў, што ён будзе ставіць пытаньне перад Маскоўскім патрыярхатам пра наданьне самакіраваньня Беларускаму экзархату. Ён згадаў, што такі статус маюць праваслаўныя цэрквы ў Эстоніі, Латвіі, Малдове, хаця тыя цэрквы значна меншыя за беларускую.

Як стала вядома, мітрапаліт Павал жыве па запрашэньні Лукашэнкі непасрэдна ў яго рэзыдэнцыі ў Драздах. У Маскве ўжо прагучалі заявы, што мітрапаліт Павал занадта прыслухоўваецца да ўладаў і што , магчыма, гэтая заява зроблена пад уплывам Лукашэнкі.

Вядома, радавацца пакуль рана, бо невядома ці справа дойдзе да яе практычнага ўвасабленьня і што гэта будзе азначаць у рэальнасьці.

# Герой сэрыялу ў 2003 годзе распавёў, як Луганск і Севастопаль разбураць Расею

Сцэнарысты аднаго з сэрыялаў, які ішоў на экранах у 2003 году, уклалі ў вусны аднаго звар'яцелага героя словы, якія могуць быць прарочымі. Урывак з фільма, у якім ідзе размова пра пагібель Расеі зьявіўся у Інтэрнэце. Герой гаворыць, што для гібелі расейскай дзяржавы неабходна перадаць ёй Луганск з двума мільёнамі камуністаў і Севастопаль з абсалютна састарэлай каналізацыяй.

# У Менску прайшоў "Дзень вышыванкі"



13 сьнежня ў менскім Палацы Мастацтва (вул. Казлова, 3) ладзіўся «Дзень вышыванкі», які сарганізавала Арт-Сядзіба.

У холе Палаца Мастацтва працавала выстава традыцыйных і сучасных вышыванак, адзеньня і сувэніраў ад папулярных маладзевых брэндаў, разнастайных вырабаў рамесьнікаў і майстроў, а ў гэты час у канфэрэнц-залі праходзілі майстар-клясы, конкурсы, прэзэнтацыі ды музычныя выступы беларускіх гуртоў.



Напярэдадні актывісты і валянтэры Арт-сядзібы раздалі ў Менску больш за 12 тысяч бела-чырвоных стужак з беларускім арнамэнтам і адначасна запрашалі на "Дзень вышыванкі". Агулам у акцыі ўзялі ўдзел больш за 100 валянтэраў. Акцыя праходзіла пад поклічам «Пазнач сябе беларусам». Таксама на сайце Арт-Сядзібы зьявілася інфармацыя пра 30 пунктаў у Менску, дзе можна было бясплатна атрымаць стужкі. Гэта былі офісы грамадзкіх арганізацыяў, гандлёвыя цэнтры, унівэрсытэты ды інтэрнаты, крамы і цырульні. Такая падрыхтоўчая актыўнасьць прынесла добрыя вынікі. Палац Мастацтва ў "Дзень вышыванкі" быў перапоўнены. Сьвята сталася моцнай акцыяй у падтрымку беларускай нацыянальнай ідэнтычнасьці і паказала, як шмат людзей у беларускім грамадзтве памятаюць пра свае карані.



# Вашынгтонскі гурток БАЗА ў 2014-м: вынікі працы і пляны на будучыню

16 лістапада ў Акрузе Калюмбія адбыўся агульны сход Вашынгтонскага гуртка БАЗА. Сябры Гуртка абмеркавалі вынікі дзейнасьці за апошнія 9 месяцаў і пляны на бліжэйшую будучыню, а таксама правялі выбары кіруючых органаў.

На працягу справаздачнага перыяду гурткоўцы дабіліся важкіх посьпехаў. У лютым, пасьля сустрэчы з беларускім праваабаронцам Алегам Воўчакам, яны далучыліся да кампаніі падтрымкі палітвязьня Мікалая Аўтуховіча, якая завяршылася яго вызваленьнем 8 красавіка. Цягам апошніх некалькіх гадоў актывісты гуртка таксама вялі кампанію па вызваленьні Алеся Бяляцкага, адпраўляючы лісты беларускім і амэрыканскім уладам ды паштоўкі са словамі падтрымкі самому Алесю. Вялікай радасьцю для ўсіх стаў дзень яго-нага вызваленьня - 21 чэрвеня.

25 сакавіка, падчас сьвяткаваньня Дня Волі, сябры Вашынгтонскага гуртка зладзілі ў Кангрэсе ЗША брыфінг на тэму "Беларусь: ці магчымыя пазытыўныя перамены ў геаграфічным цэнтры Эўропы?". Брыфінг прайшоў пад патранажам Гэльсінскай Камісіі ЗША пры падтрымцы Freedom House і Аб'яднанага Балтыйска-Амэрыканскага Нацыянальнага Камітэта (JBANC), зь якімі гурток падтрымлівае шматгадовыя працоўныя кантакты. У якасьці сьпікераў выступілі Кэнэт Ялавіц, былы амбасадар ЗША ў Беларусі (1994-1997), Роберт Герман, віцэ-прэзыдэнт Freedom House, Т. Кумар, дырэктар міжнароднай праваабароны Amnesty International USA ды Роджэр Патоцкі, старэйшы дырэктар па Эўропе Нацыянальнага Фонду за Дэмакратыю (NED). У зале не было вольных месцаў, шматлікім прысутным давялося слухаць выступоўцаў стоячы. У той самы дзень актывісты правялі ўскладаньне кветак ля Мэмарыялу Ахвяраў Камунізму, падчас якога з прамовай выступіла Алеся Сёмуха. Мерапрыемствы 25 сакавіка шырока асьвятляліся беларускай незалежнай прэсай.

Асабліва важнай у гэтым годзе для Вашынгтонскага гуртка стала кампанія, прымеркаваная да Чэмпіянату сьвету па хакеі, які праводзіўся ў Менску ў траўні. Яшчэ за два гады да яго правядзеньня амэрыканскі ўрад прыняў рашэньне байкатаваць чэмпіянат, з прычыны чаго амэрыканская прэса яго не асьвятляла. Тым няменш, Вашынгтонскаму гуртку атрымалася выкарыстоўваць гэтую спартыўную падзею з мэтай прыцягненьня ўвагі амэрыканскай грамадзкасьці да праблемы парушэньня правоў чалавека ў Беларусі. Гурток зрабіў дзьве сумесныя заявы з Freedom House і Human Rights First, заклікаўшы Беларусь вызваліць усіх палітвязьняў напярэдадні чэмпіянату. Гурткоўцы накіравалі шматлікія лісты беларускім і амэрыканскім уладам, кіраўніцтву Нацыянальнай зборнай ЗША па хакеі, у амбасады ЕЗ, а таксама падрыхтавалі шэраг сумесных публікацыяў з Amnesty International і Human Rights First на тэмы правоў чалавека ў Беларусі. У адказ на зварот Вашынгтонскага гуртка БАЗА кангрэсмэны Шымкус і Маран зрабілі публічныя заявы аб становішчы правоў чалавека ў Беларусі. 8 траўня гурткоўцы ўзялі ўдзел у анляйн абмеркаваньні, арганізаваным Аб'яднаным Балтыйска-Амэрыканскім Нацыянальным Камітэтам (JBANC) сумесна з Freedom House і Amnesty International. У той самы дзень прайшоў пратэст ля будынку беларускай амбасады ў Вашынгтоне пад лёзунгам "Беларусь, гуляй па правілах!" Мерапрыемствы, якія ладзіліся Вашынгтонскім гуртком БАЗА, шырока асьвятляліся ў беларускай незалежнай і амэрыканскай прэсе (у тым ліку ў The New York Times).

30 жніўня - 1 верасьня прадстаўнік гуртка Валер Кавалеўскі браў удзел у працы 31-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Нью-Ёрку.

4 верасьня Алеся Кіпель і Слава Бортнік сустрэліся з удзельнікамі маючай адбыцца місіі амэрыканскага ўраду (у складзе Дзярждэпартамэнту, USAID і іншых урадавых агенцтваў) у Менск. Гурткоўцы перадалі свае рэкамэндацыі ўдзельнікам місіі.

16 верасьня, у 15-ю гадавіну палітычных "зьнікненьняў", актывісты гуртка правялі пратэст ля будынка беларускай амбасады ў Вашынгтоне пад лёзунгам "Беларусь, дзе Ганчар і Красоўскі?" Напярэдадні пратэсту былі адпраўленыя лісты беларускім уладам з патрабаваньнем правядзеньня неадкладнага незалежнага расьсьледаваньня з публікацыяй яго вынікаў. Лісты таксама адпраўляліся амэрыканскім уладам сумесна з Freedom House, JBANC, We Remember Foundation і Amnesty International USA. Быў атрыманы адказ за подпісам Эрыка Рубіна, намесьніка памочніка дзяржсакратара ЗША.

У кастрычніку актывісты Гуртка ўзялі ўдзел у акцыі салідарнасьці з палітвязьнем Паўлам Вінаградавым, які быў неўзабаве вызвалены. У лістападзе мела месца новая акцыя салідарнасьці, на гэты раз - з нагоды высылкі зь Беларусі праваабаронцы Алены Танкачовай.

Акрамя арганізацыі ўласных мерапрыемстваў, актывісты Вашынгтонскага гуртка бралі ўдзел у акцыях салідарнасьці з народам Украіны, прысутнічалі на сустрэчах у іншых арганізацыях, якія датычыліся беларускага пытаньня, ускладалі кветкі ля Мемарыялу ахвяраў камунізму падчас штогадовай цырымоніі ў чэрвені, прысутнічалі на кінапаказе дакумэнтальнага фільма "Небясьпечныя акты" ў Вашынгтоне, дасылалі паштоўкі да Дня Волі беларускім палітвязьням і спачуваючым беларускай справе ў Вашынгтоне. Алеся Кіпель, як прадстаўнік БАЗА, брала актыўны ўдзел у працы Цэнтральна- і Усходне-еўрапейскай кааліцыі. У жніўні Вашынгтонскі гурток абзавёўся ўласным значком ў форме перакрыжаваных беларускага і амэрыканскага сьцягоў. На працягу года рэгулярна абнаўлялася старонка гуртка на Facebook і Twitter.

На сходзе 16 лістапада былі абраныя новыя кіруючыя органы Вашынгтонскага гуртка БАЗА ў складзе старшыні Алесі Кіпель, намесьніка старшыні Славы Бортніка, скарбніка Алесі Сёмухі, сакратарак Натальлі Рабавай і Лілі Смелкавай, а таксама адказнага за сувязі з грамадзкасьцю Валера Кавалеўскага. Было прынята рашэньне аб стварэньні новых арганізацыйных структур гуртка. Вольга Рошчанка была абраная каардынатарам па культуры, Яўген Барысевіч - па маладзевых пытаньнях і Тацьцяна Процька - па гістарычных пытаньнях.

У бліжэйшых плянах Гуртка - стварэньне беларускай бібліятэкі, даступнай яго сябрам і ўсім, хто цікавіцца беларускім пытаньнем, пашырэньне культурна-гістарычнай дзейнасьці, а таксама падрыхтоўка кнігі аб працы Гуртка цягам 2010-2015 гг.

*Прэсавая служба Вашынгтонскага гуртка БАЗА*

# Аўтакефалія праваслаўнай царквы - шлях да рэлігійнай незалежнасьці

На працягу не аднаго стагодзьдзя Беларусь-Літва ў пытаньнях арганізацыі царкоўна-рэлігійнага жыцьця зьведвала вялікае ўзьдзеяньне на сабе з боку суседзяў, што перашкаджала ёй быць па-сапраўднаму незалежнай ня толькі ў рэлігійнай, але і ў палітычнай, эканамічнай, культурна-моўнай сфэрах. Апошняя з названых надзвычай небясьпечная, бо з-за гэтага карэнным чынам мяняецца сама этнічная прырода людзей, якія становяцца безабароннымі перад асіміляцыяй. Менавіта па гэтай прычыне беларусы-ліцьвіны, будучы нявольныя ў выбары адпаведнага сабе фармату каталіцызму ці праваслаўя панесьлі такія велізарныя этнакультурныя страты ў выніку паланізацыі і русіфікацыі.

Пачыналася ж у нашых прашчураў з увядзеньнем хрысьціянства ўсё даволі прыстойна. У адрозьненьне ад украінцаў-русінаў і маскавітаў нашыя ліцьвіны-беларусы не вялі жорсткай барацьбы са сваёй не аднаго стагодзьдзя старажытнай рэлігіяй – язычніцтвам (паганствам), мо таму пэўныя праявы яго і па сёньня захоўваюцца, шануюцца, паважаюцца як вернікамі, так і атэістамі.

Практычна не бывае такога, каб асноўныя ў той ці іншай краіне рэлігійныя канфэсіі знаходзіліся па-за ўвагай сьвецкай улады. Такое было характэрна і занесенаму ў наш край з ПОЎДНЯ (а не з усходу—Л.А.) і захаду хрысьціянству. З боку дзяржавы яно належным клопатам карысталася ў Вялікім Літоўскім Княстве. Яго кіраўніцтва выдатна разумела, што не забясьпечыўшы незалежнасьці ў царкоўна-рэлігійнай сфэры, будзе ніяк немагчыма дамагчыся рэальнага дзяржаўнага суверэнітэту Княства. Ворагаў жа ў яго хапала як на ўсходзе, так і на захадзе. Прычым у тым змаганьні кожны зь іх заўжды стараўся выкарыстаць і рэлігійны фактар, асабліва Маскоўскае Княства, зь якім у ВКЛ было нямала агульнага ў рэлігійнай сфэры. Напружаньне стала нарастаць, калі ў сувязі з захопам татара-манголамі Кіева Кіеўскую мітраполію перанесьлі ва Ўладзімір-на Клязьме, а ў пачатку XIV стагодзьдзя і зусім у Маскву.

Гэтую сытуацыю правільна ацаніў вялікі літоўскі князь Гедзімін. Не без ягонай ініцыятывы Канстанцінопальскі патрыярх прызначыў у 1316 годзе першага мітрапаліта кіеўскага ў ВКЛ Феафіла з рэзідэнцыяй у Навагрудку, што, як справядліва зазначае Сьвятлана Марозава, - "адлюстравала суперніцтва царкоўных і сьвецкіх уладаў ВКЛ з маскоўскімі князямі і мітрапалітамі за першынства на ўсходнеславянскіх землях" 1.

Шчырым і актыўным прыхільнікам праваслаўнай царквы Вялікага Літоўскага (Беларускага) Княства быў наш вялікі літоўскі князь Вітаўт. Па ягонай прапанове япіскапы Вялікага Княства нават насуперак жаданьню Канстанцінопаля абралі ў 1415 годзе асобным мітрапалітам кіеўскім у ВКЛ балгарына Рыгора Цымблака, аднак замацавацца на гэтай пасадзе ён ня змог, бо царкоўная ўлада ў ВКЛ перайшла да стаўленіка Масквы Фоція. І сапраўднага міру сярод праваслаўных усходнеславянскіх земляў не ўдалося дасягнуць. Што да пазыцыі Масквы ў рэлігійным пытаньні, то яны нязьменна ўмацоўваліся, у выніку чаго ў 1459 годзе паўстала самастойная, незалежная ад Кіева Маскоўская патрыярхія. Хоць праваслаўныя ВКЛ супольна з Галіцыяй знаходзіліся пад юрысдыкцыяй Кіеўскай мітраполіі, уплывы Масквы працягвалі адбівацца на іхным жыцьці, што іншым разам зьяўлялася нават адной з прычынаў крывавых войнаў.

Не спыніліся яны і пасля таго, як у 1569 годзе аб'ядналіся Вялікае Літоўскае Княства з Польскай Каронай у фэдэратыўную дзяржаву - Рэч Паспалітую Абодвух Народаў (польскага і літоўскага (беларускага)). Тут ужо праваслаўным давялося мець справу зь небясьпечным уплывам касьцёла – магутным носьбітам польскага духу ў Рэчы Паспалітай. Неверагодна складаныя ўмовы царкоўна-рэлігійнага жыцьця зрабілі зусім немагчымым будаваць яго на прынцыпах незалежнасьці, затое прывялі ў 1596 годзе да заключэньня Берасьцейскай царкоўнай вуніі. А яе ўсяляк падтрымліваў папа рымскі, што дапамагала вуніятам ладзіць сваё жыцьцё больш-менш незалежна і ад польскага касьцёла, і ад утворанай бяз згоды Канстанцінопаля ў 1589 годзе Маскоўскай патрыярхіі.

Карэнныя зьмены ў царкоўна-рэлігійнай сфэры Вялікай Літвы-Беларусі, прычым ня ў лепшы бок, адбыліся ў канцы XVIII ст. пасьля яе інкарпарацыі (лепш сказаць – агрэсыўнага ваеннага захопу і далучэньня) ў склад Расейскай імпэрыі. Самыя цяжкія выпрабаваньні выпалі на долю вуніятаў. Не без дапамогі падкупленых царскімі і сьвецкімі ўладамі Расіі вуніяцкіх ярархаў удалося ў 1839 годзе пакласьці канец нялёгкаму існаваньню Беларускай вуніяцкай царквы. Бальшыню яе вернікаў гвалтам перавялі ў рускае праваслаўе, у якім амаль нічога не было беларускага. І не было таму, што праваслаўнае духавенства Раскійскай імпэрыі цалкам адмаўляла існаваньне ў самой прыродзе беларусаў, лічачы іх за рускіх. У краінах Эўропы ніводная праваслаўная царква не праводзіла такой дэструктыўнай антынацыянальнай палітыкі ў дачыненьні да сваіх прыхаджанаў. За працяглы час знаходжаньня нашага краю ў складзе Расейскай імпэрыі руская праваслаўная царква не правяла аніводнай багаслужбы на роднай мове беларускага народу, не заснавала на ёй аніводнай школкі, не выдала аніводнай газэты ці кніжкі.

Калі ў часе рэвалюцыйных падзеяў 1917 года і на нашай зьнявечанай чужынцамі зямлі ўзьнікла нешта падобнае на ўласную дзяржаву ў форме Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, нацыянальнай арыентацыі духоўныя і свецкія асобы не жадалі і надалей мець у сваім доме штосьці падобнае на расейскую праваслаўную царкву царскіх часоў. Неўзабаве ў перадавых колах грамадзтва шырокую папулярнасьць набыла ідэя стварэньня ў БССР Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ). За неадкладную рэалізацыю гэтай прагрэсыўнай цалкам апраўданай задумы актыўна ўзяўся мітрапаліт Менскі і Беларускі Мельхісэдэк (Міхал Паеўскі), запачаткаваўшы ў XX ст. абвяшчэньне і заснаваньне Беларускай праваслаўнай аўтаноміі і аўтакефаліі. І яго старанныі маглі б даць куды большы і жаданы плён, каб ня арышт і высылка ў Краснаярскі край ды заўчасная сьмерць у Маскве ў 1931 г.

У першыя гады існаваньня БССР была і такая незалежнага характару рэлігійная структура, як Беларуская аўтаномная праваслаўная царква. Яе абвясьцілі ў траўні 1924 года ў Магілёве на першым Беларускім абласным царкоўным саборы. Яна пратрымалася да сьнежня 1934 года, пакольки будавала сваю дзейнасьць у адпаведнасьці з савецкім укладам жыцьця.

Калі здавалася, што ўжо ўсё ўціхла з ідэяй аўтакефальнай праваслаўнай царквы, улетку 1937 года яна зноў усплыла на паверхню, пра што паклапаціліся – цяжка паверыць! – самі савецкія рэпрэсыўныя службы. Выкрытую імі выключна ўяўную шпіёнска-паўстанцкую арганізацыю назвалі яны "Беларуская праваслаўная царква". За надуманую прыналежнасьць да яе і актыўную дзейнасьць 11 чалавек расстралялі, а двух прыгаварылі да адбыцьця дзесяцігадовага тэрміну ў сталінскіх лягерах. Зразумела, выкрытая нкусаўцамі "царква" нічога практычнага і карыснага не дадала да ідэі аўтакефаліі, а вось думку пра яе ў некаторых людзей усё ж такі абудзіла.

На паводзіны, псыхалёгію беларусаў-ліцьвінаў неадназначна паўплывалі жорсткія ўмовы фашысцкай акупацыі нашай Бацькаўшчыны ў 1941—1944 гадах. Даводзілася глыбока задумвацца над тым, што ў Савецкай Беларусі ўжо многіх амаль зусім не хвалявала, ў заканамерным страху як ня стаць безабароннай ахвярай фашысцкай палітыкі анямечваньня. Людзі ня толькі загаварылі, але і пачалі рабіць канкрэтныя крокі па аднаўленьні даваеннай практыкі беларусізацыі жыцьця, якое ў другой палове 1930-х гадоў пасьпела зьведаць на сабе немалую дэфармацыю з-за мэтанакіраванага сталінскага курсу культурна-моўнай асыміляцыі (русіфікацыі) усіх нярускіх народаў. Нямецкі акупацыйны рэжым спрычыніўся і да аднаўленьня ў жніўні 1942 года Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. І яна рэальна функцыянавала, знайшла падтрымку ў шырокіх колах грамадзтва. Толькі з-за неспрыяльных ваенных умоваў не было рэальнай магчымасьці ўлагодзіць гэтае лёсавызначальнае для беларусаў-ліцьвінаў пытаньне канчатковым прызнаньнем БАПЦ Канстанцінопальскім Патрыярхам.

Тое, чаго не ўдалося дасягнуць дома ў гады акупацыі, стала рэальнасьцю ў пасляваенны час, толькі ўжо на чужыне. Патрэба ў аўтакефальнай праваслаўнай царкве была вельмі надзённай для нашых уцекачоў на Захад, бо амаль усё эвакуяванае сюды кіраўніцтва створанай у 1942 годзе БАПЦ далучылася да Расейскай зарубежнай праваслаўнай царквы, якая накшалт такой царквы ў Расеі і СССР зусім не лічылася з нацыянальнымі інтарэсамі беларускіх вернікаў. Каб стаць на абарону такіх інтарэсаў, і была заснавана ў чэрвені 1948 года ў Канстанцы (Нямеччына) пры самай вялікай падтрымцы і непасрэдным удзеле Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква. Лёс апошняй стаўся непараўнальна больш шчасьлівым, чым у дзвюх яе папярэдніц. БАПЦ, на шчасьце беларусаў-ліцьвінаў ня толькі замежжа, але і метраполіі, працягвае сваю дзейнасьць і да сёньня, хоць і даецца гэта праз вялікія цяжкасьці. У пачатку 1980-х гадоў справа дайшла нават да вялікага расколу БАПЦ і ўзьнікненьня ў эміграцыі дзвюх БАПЦ.

Калі б у пасьляваенныя гады за мяжой не была створана і не функцыянавала Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква, мы тады і сёньня ня мелі б досыць скансалідаванай шматлікай беларускай дыяспары. Нашыя суайчыньнікі, апынуўшыся за мяжой, зьведалі вялікія цяжкасьці з уладкаваньнем жыцьця, часьцей супольна, чым паасобку, прасілі Бога дапамагчы пераадолець іх. Патрэба ў стварэньні ўласных хрысьціянскіх храмаў адчувалася на кожным кроку. Няцяжка прадбачыць, чым бы ўсё гэта закончылася, калі б нашыя эмігранты хадзілі пакланяцца Богу не ў свае, а ў замежныя – рускія ці ўкраінскія праваслаўныя бажніцы, а некаторыя – у польскія касьцёлы. Такога ж роду хрысьціянскія сьвятыні здаўна прыжыліся на беларускай зямлі. Для яе хрысьціянскіх вернікаў пераход з праваслаўя ў каталіцызм - не такая ўжо і рэдкая зьява, прычым нават са зьменай сваёй

*Працяг на 6-й бачыне*

# Аўтакефалія праваслаўнай царквы - шлях да рэлігійнай незалежнасьці

Працяг з 5-й бачыны

нацыянальнай ідэнтычнасьці, што супярэчыць усялякай логіцы. Без уласнай праваслаўнай царквы беларускія эмігранты гэтай веры зь цягам часу трансфармаваліся б у бальшыні сваёй у расейцаў, украінцаў, палякаў. І калі такога, хвала Богу, не адбылося, дык толькі дзякуючы таму, што нашыя паваенныя эмігранты мелі Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву. У захаваньні беларусамі-ліцьвінамі сваёй нацыянальнай ідэнтычнасьці пэўную ролю адыгралі створаныя імі вуніяцкія прыходы, нягледзячы на іх нязначную колькасьць. Ня ўсе і з беларусаў-пратэстантаў растварыліся на чужыне. Але і першым, і другім далёка да БАПЦ па заслугах захаваньня эмігрантаў-беларусаў ад культурна-моўнай асыміляцыі.

Да беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэньня канца 80-х – пачатку 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя ў нас вельмі мала чаго ведалі пра дзейнасьць БАПЦ за мяжой. Сытуацыя рэзка зьмянілася пасьля прыняцьця 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце БССР і распаду СССР у канцы 1991г. На гэты час прыпала ажыўленьне царкоўна-рэлігійнай дзейнасьці ўсіх канфэсій краіны. Беларусь сталі наведваць і кіраўнікі замежнай БАПЦ, пакідаючы пра сябе, дзякуючы адданасьці беларускім культурна-моўным традыцыям, пазытыўнае ўражаньне ў жыхароў мэтраполіі. Гэта, зразумела, не магло не ініцыяваць у нацыянальна сьведамых пластах грамадзтва думкі пра аднаўленьне ў сувэрэннай Рэспубліцы Беларусь незалежнай праваслаўнай царквы, дзеля чаго столькі намаганьняў давялося прыкласьці на працягу XX стагодзьдзя. І ў такой думкі аказалася шмат прыхільнікаў, асабліва да ўсталяваньня прэзыдэнцкай сыстэмы кіраваньня краінай. А вось яе Прэзыдэнт адразу ж пайшоў на самае цеснае збліжэньне і супрацоўніцтва з ярархамі Беларускага Экзархату – рэлігійна-структурным падразьдзяленьнем расейскай праваслаўнай царквы Маскоўскага Патрыярхату і г. зн. ва ўсім залежнай ад яго. І духоўныя, і сьвецкія ўлады ў штыкі сустрэлі сьвятую для нас ідэю Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, чым толькі засьведчылі сваю поўную абыякавасьць да палітычнага сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусь, бо ён ёсьць поўная фікцыя пры існаваньні рэлігійнай залежнасьці ад якой-небудзь дзяржавы, у нашым выпадку – ад Расейскай Фэдэрацыі. Нездарма ў Сярэднявеччы Масква так змагалася з Канстанцінопальскім Патрыярхам за сваю царкоўную незалежнасьць і насуперак ягонай волі спачатку выйшла са складу Кіеўскай мітраполіі, а затым стварыла сваю ўласную патрыярхію. І гэта ў час, калі маці праваслаўя – Канстанцінопальская патрыярхія зьведала велізарныя цяжкасьці з-за знаходжаньня горада пад уладай мусульманскай Асманскай (Атаманскай) імпэрыі, а таксама з-за няспынных канфліктаў з каталіцкім Рымам.

Архінепрыхільнае стаўленьне самой прарасейскай Беларускай Праваслаўнай Царквы Маскоўскага Патрыярхату і палітычнага кіраўніцтва РБ да ідэі аўтакефаліі тлумачыць, чаму яна і пасёньня знаходзіцца ў зародкавым стане. Для БАПЦ дзяржава ня выдзеліла нават самага невялічкага памяшканьня, чаго нельга сказаць пра фінансавую і іншага роду дапамогу БПЦ МП. Бяз дай прычыны ўладамі чыняцца ўсялякія перашкоды пад час правядзеньня сьвятарамі БАПЦ багаслужбаў, малебнаў, асвячэньняў крыжоў і інш. Сьвятары БАПЦ на Бацькаўшчыне зьведваюць адміністрацыйны і судовы перасьлед, штрафуюцца і асуджаюцца за выкананьне сваіх царкоўных патрэбаў; у іх і вернікаў адбіраюць аднаўленыя ці разбураюць новабудаваныя цэрквы; сьвятары ж вымушаныя зьяжджаць з Бацькаўшчыны на чужыну. БАПЦ ў РБ існуе як падпольная і вандроўная царква, бо прарасейская ўлада Беларусі адмаўляе ёй у рэгістрацыі пад любымі надуманымі падставамі. Таму не зьдзіўляе, што на сёньня БАПЦ ў Беларусі-Ліцьве мае толькі ўсяго некалькі суполкаў-прыходаў.

Ня можа ня радаваць наяўнасьць сярод сьвятароў БАПЦ тых, хто ўсёй душой служыць і Богу, і нацыянальным інтарэсам дарагой Бацькашчыны. Да іх – не баюся памыліцца – належыць і пратаярэй дзэкан Менскай царкоўнай акругі БАПЦ і кіраўнік менскай суполкі імя Сьвятой Афрасіні Полацкай Леанід Акаловіч, у нядалёкім мінулым выкладчык беларускай мовы Беларускага педагагічнага ўніверсытэта імя Максіма Танка, дзе працаваў і аўтар гэтых радкоў. Аўтарытэтам у той час у студэнтаў і педагогаў будучы айцец Леанід карыстаўся надзвычай высокім. Такі ж аўтарытэт сёньня ў яго сярод сьвятароў і вернікаў, і ўвогуле актывістаў нацыянальнага руху краіны. Мала якія з ладжаных імі мерапрыемстваў адраджэнскага характару адбываюцца безь ягонага ўдзелу. Адным з галоўных клопатаў для айца Леаніда было і застаецца ўшанаваньне памяці пахаваных ахвяраў савецкіх масавых фізычных рэпрэсіяў у Курапатах і іншых мясьцінах Беларусі-Літвы.

З найлепшага боку зарэкамэндаваў сябе айцец Леанід Акаловіч у публіцыстыцы, як духоўнай, так і сьвецкай, што сьведчыць пра яго глыбокія веды і мінулага, і сучаснага жыцьця краіны. Люба слухаць, калі ён прамаўляе на розных канфэрэнцыях, семінарах, "круглых сталах" ці пасяджаньнях розных грамадзкіх камітэтаў, у якіх ён прымае актыўны ўдзел. Дай краіне сотню такіх адданых нацыянальным ідэалам сьвятароў – як бы яна ўзбагацілася ў сваёй беларускасьці! Іх ніколі ня дасьць БПЦ, будучы так моцна залежнай ад Маскоўскай патрыярхіі. Становішча зможа карэнным чынам павярнуцца ў лепшы бок толькі тады, калі ўлады зразумеюць, што без царкоўна-рэлігійнай незалежнасьці нельга дасягнуць рэальнага дзяржаўнага сувэрэнітэту, і сьвядома пойдуць на збліжэньне і супрацоўніцтва з той канфэсіяй, дзейнасць якой у найбольшай ступені адпавядае гэтаму.

Сусьветны вопыт пераканаўча сьведчыць, што на поўным сур'ёзе ніяк не выпадае гаварыць пра дзяржаўны сувэрэнітэт таго ці іншага народу ня толькі тады, калі яго афіцыйнае жыцьцё абслугоўваецца чужой моваЙ, але і тады, калі ў рэлігійным кантэксьце ён залежыць ад якой-небудзь краіны. Што да нашых далёкіх продкаў, то гэтыя дзве лёсавызначальныя праблемы ніколі не выпадалі з-пад іх увагі, а вось сучасныя высокаэрудыраваныя колы грамадзтва, не выключаючы і саміх палітыкаў, ідэолягаў, ня могуць ці не жадаюць як сьлед разабрацца зь імі. Магутны чыньнік русіфікацыі беларускага народу ёсць Праваслаўная царква Беларусі Маскоўскага патрыярхату. Яна па маштабах дзяржаўнай падтрымкі ня мае сабе роўных сярод іншых хрысьціянскіх канфэсій, а Праваслаўная Аўтакефальная і Вуніяцкая Цэрквы зь іх беларускамоўным набажэнствам знаходзяцца на становішчы нейкіх выгнанцаў, адлучэнцаў ці адшчапенцаў (ізгояў). Міжволі напрошваецца высова: стаўленьне ўладных структураў да той ці іншай канфесіі вызначаецца яе ўкладам у рэалізацыю дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі.У гэтым плане ў Праваслаўнай царквы Беларусі не было раней, няма і сёння сур'ёзнага канкурэнта. Хутчэй за ўсё, што і надалей не адбудзецца значных пераменаў пры гэткай антыбеларускай уладзе.

Зьдзіўляе, што Беларускую праваслаўную царкву не падштурхнуў да беларускасьці сапраўды нацыянальна-патрыятычны вычын касьцёла нашай краіны. Нямала дасталася яму ад беларускіх нацыянальных патрыётаў – і ў бальшыні выпадкаў па справядлівасьці – за паланізацыю сваіх вернікаў няпольскага паходжаньня. Але на рубяжы 1980 - 1990 гадоў у БССР ды і ў іншых саюзных рэспубліках пачаўся доўгачаканы прагрэсыўны працэс нацыянальна-культурнага адраджэньня, чаму ўсяляк садзейнічаў і садзейнічае касьцёл, найлепшым доказам чаму зьявілася шырокае выкарыстаньне беларускай мовы ва ўсіх відах набажэнства. Кіраўніцтва ж БПЦ рабіла выгляд, што нібыта не заўважае такіх пазытыўных пераменаў у дзейнасьці касьцёла і працягвае па старой звычцы і сёньня працаваць у маскоўскім культурна-моўным рэжыме, бязьлітасна разбураючы этнакультурны падмурак духоўнай сфэры шматлікіх вернікаў. Прысланы ў 1978 годзе Маскоўскім патрыярхатам узначаліць БПЦ расеец па нацыянальнасці Філарэт (Вахрамееў) за 35 гадоў знаходжаньня на гэтай высокай пасадзе ня толькі не правёў аніводнай багаслужбы на мове тытульнага народа, але нават як след не авалодаў ёю. Нягледзячы на гэта, Прэзідэнт краіны ў звароце да Мітрапаліта Філарэта з нагоды выхаду яго на пенсію ўжывае такія словы: "Особое внимание Вы уделили воспитанию традиций христианской нравственности (родная ж мова вернікаў – адзін з яе галоўных кампанентаў, - Л.Л.), сохранению духовного и культурного наследия (гэта у абход беларускай мовы, - Л.Л.) белорусского народа". (Советская Беларусь, 31.XII.2013 г.).

У многіх краінах у шырокім грамадзкім ужытку знаходзіцца словаспалучэньне "нацыянальная царква" і ні ў кога гэта не выклікае пярэчаньня, а наадварот, усяляк падтрымліваецца, бо заўжды маецца пільная патрэба, каб уся дзейнасьць царквы будавалася з улікам нацыянальных, культурна-моўных традыцый кожнага канкрэтнага народа. У нас яны здаўна парушаюцца прамаскоўскай праваслаўнай царквой, у якой, як і на неабсяжных прасторах Расеі, пануе расейскі дух. Пры ўсім жаданьні такую царкву ніяк не назавеш нацыянальнай. Што беларускі народ праз дзяржаўную палітыку русіфікацыі, у баку ад якой не стаіць і РПЦ, ледзь ня ўвесь анямеў у сваёй роднай мове, бачаць і сьвецкія, і царкоўныя ўлады. А вось падаць руку дапамогі яму ніхто зь іх не жадае, бо і адна, і другая не кіруецца нацыянальнымі інтарэсамі.

Натуральна, прагрэсыўным колам беларускага народа такое не па душы, таму яны ня могуць не выступаць за тое, каб у краіне ня толькі дзяржава, але і самая шматлікая па колькасьці вернікаў Беларуская праваслаўная царква паводле сваёй дзейнасьці і зьяўляліся б нацыянальнымі. І БПЦ ня можа ня быць такой, павінна прыкласьці тытанічныя намаганьні, каб сплаціць беларускаму народу свае мінулыя даўгі за ўдзел у яго русіфікацыі, а не займацца ёю і ва ўмовах сувэрэннай Рэспублікі Беларусь. Закаранелых праціўнікаў такога пазытыўнага для беларусаўліцьвінаў павароту ў дзейнасьці БПЦ у нас хоць гаць гаці. Гэта яны і выступаюць больш за ўсіх супраць ужываньня найменьня "нацыянальная праваслаўная царква", аднак ім ніяк не ўдаецца – і думаецца ня ўдасца – ніякімі паклёпамі заглушыць прагрэсыўную ідэю аўтакефаліі на беларускім абшары, дзе і сёньня па-гаспадарску адчуваюць сябе чужыя расейская культура і мова, расейскамоўнае праваслаўе. Верыцца, што Канстанцінопальская Патрыярхія ласкава працягне выратавальную руку беларускамоўнаму праваслаўю, як гэта яна сыстэматычна рабіла ў адказ на такія памкненьні аўтакефальных цэркваў іншых краінаў. Найбольш яскравы прыклад: у 1996 годзе па просьбе невялікай групы эстонскіх нацыяналістаў Канстанцінопальская праваслаўная царква аднавіла аўтаномію для Эстонскай праваслаўнай царквы і ўзяла яе пад Канстанцінопальскую юрысдыкцыю. Пераважная ж бальшыня праваслаўных вернікаў гэтай краіны знаходзіцца ў юрысдыкцыі Эстонскай праваслаўнай царквы Маскоўскага патрыярхату. Годам раней аналягічнае адбылося і сярод пэўнай часткі праваслаўных Украіны. У сёньняшняй складанай сытуацыі ў нашай паўднёвай суседкі па-сапраўднаму змагаецца за яе тэрытарыяльную цэласнасьць і дзяржаўны сувэрэнітэт ня так Украінская праваслаўная царква Маскоўскага патрыярхату, як Украінская аўтакефальная праваслаўная царква і Украінская праваслаўная царква Кіеўскага патрыярхату. Усе гэтыя тры галіны ўкраінскага праваслаўя наблюжаюцца да аб'яднаньня ў адну Памесную Украінскую Праваслаўную Царкву. Як бачым, нам ёсьць з каго браць добры прыклад.

Упартае нежаданьне Беларускай Праваслаўнай Царквы Маскоўскага патрыярхату ўступіць у беларускую культурна-моўную каляіну – пераканаўчы доказ вострай неабходнасьці актывізацыі дзеля захаваньня нашай нацыянальнай ідэнтычнасьці, дзейнасьці аўтакефальнай праваслаўнай царквы, прычым не чакаючы падтрымкі дзяржавы ў ажыцьцяўленьні гэтай прагрэсыўнай і выратавальнай для беларускага народа ініцыятывы. Наш сьвяты са сьвятых абавязак быць шчырымі, адданымі пасьлядоўнікамі вялікіх князёў Гедзіміна і Вітаўта, князя-гетмана ВКЛ Канстанціна Астрожскага, знаных асобаў праваслаўнай царквы Навагрудска-Літоўскай Мітраполіі Рыгора Цымблака, Рыгора Баўгарына, Мельхісэдэка (Міхала Паеўскага), - усіх тых, хто аддаў сваё жыцьцё дзеля таго, каб праваслаўная царква ў нашай старажытнай сувэрэннай дзяржаве Вялікай Ліцьве-Беларусі была АЎТАКЕФАЛЬНАЙ, гэта значыць адзіна памеснай, самастойнай, незалежнай, цэласнай. У ёй мне бачыцца магутны сродак выратаваньня нас ад русіфікацыі і забесьпячэньне рэальнага дзяржаўнага сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусі-Літвы.

*Леанід Лыч, доктар гістарычных навук, прафэсар, Менск*

# Востраў спраўджаных надзеяў



12 лістапада 2014 году споўнілася 60 гадоў з таго часу, калі быў зачынены іміграцыйны цэнтр на востраве Эліс у Нью-Ёрку. Для мільёнаў жыхароў ЗША гэты невялічкі востраў ва усьці ракі Гадзан стаў першым кавалачкам амэры-



канскай зямлі, на якую ўступілі яны ці іхныя продкі. За 62 гады, менавіта столькі часу існаваў на Элісе іміграцыйны цэнтр, праз востраў прайшлі продкі 40 адсоткаў усяго цяперашняга насельніцтва Амэрыкі. Сярод іх шмат беларусаў. Яшчэ і сёньня сярод беларускіх эмігрантаў можна сустрэць тых паважаных выгнанцаў, што дзяцьмі ці падлеткамі сышлі з парахода пасля доўгага падарожжа праз акіян на цьвёрдую зямлю Эліса і адчулі пад сабою трывалую апору. Эліс адчыніў ім дарогу ў новае жыцьцё і бальшыні з іх удалося спраўдзіць свае надзеі на лепшы лёс у гасьціннай і заможнай Амэрыцы.



Зараз на востраве адчынены гістарычны музэй, у зборах якога захоўваюцца дакумэнты, рэчы, фота тых перасяленцаў з цэлага сьвету, хто некалі чакаў вырашэньня свайго лёсу на востраве Эліс.

*Ганна Сурмач*



26 лістапада свой жыцьцёвы юбілей - 50 гадоў ад дня народзінаў, адзначаў кіраўнік Беларускай Аўтакефальнай праваслаўнай царквы архіяпіскап Сьвятаслаў (Логін).

З гэтай нагоды Парафіяльная рада Катэдральнага сабору Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ накіравала высокашанаванаму Уладыку сваё віншаваньне ад імя Рады і вернікаў Парафіі:

"Яго Міласьці Найпачасьнейшаму Сьвятаславу Архіяпіскапу БАПЦ!

Парафіяльная Рада Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне шчыра вітае Вас з 50-гадовым юбілеем Вашага жыцьця.

Нашая Царква, якая бярэ свае пачаткі ад сьвятой Афрасініі Полацкай і ад сьвятога Кірылы Тураўскага, рэпрэзэнтуе запраўды вялікі скарб беларускага народу, які Вы сёньня ачольваеце.

Парафіяльная Рада жадае Вам далейшай плённай працы ў будучыні й спадзяецца, што доўгая традыцыя Беларускай Навагрудзкай Мітраполіі будзе зноў аднаўлена з Вашым выбарам на Мітрапаліта.

*Расьціслаў Гарошка, старшыня Парафіяльнай Рады*

# Паведамленьне

Бруклінскі аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня запусьціў свой уласны сайт на адрасе http://bazanyc.org.

Мы радыя вітаць вас на нашай інтэрнэтстаронцы! Цяпер вы зможаце быць у курсе ўсіх падзеяў, што адбываюцца ў беларускай грамадзе горада Нью-Ёрку. Далучайцеся і сачыце за апошнімі навінамі!

*Управа Бруклінскага аддзелу БАЗА*

# Прэмія імя Аляксандра й Марыі Стагановічаў за кнігу ў галіне непрыдуманай літаратуры (non-fiction)

У сучаснай Беларусі існуе патрэба падтрымкі і разьвіцьця непрыдуманай літаратуры, яе аўтараў і выдавецкага працэсу. Для спрыяньня вырашэньню гэтых задач засноўваецца Прэмія імя Аляксандра й Марыі Стагановічаў.

У 2011 г. у выдавецтве "Лімарыус" была запачаткаваная кніжная сэрыя "Беларуская мэмуарная бібліятэка", галоўнай ідэяй якой ёсьць публікацыя ўспамінаў беларусаў і пра Беларусь, што зьяўляюцца адным з жанраў непрыдуманай літаратуры. Першай кнігай, якая пабачыла сьвет у гэтай сэрыі, сталі "Успаміны пасла" эмігранта Аляксандра Стагановіча (1890—1988). У хуткім часе была апублікаваная й кніга ягонай жонкі Марыі Стагановіч (1898—1995) "Мае ўспаміны". У 2015 г. спаўняецца 125 гадоў ад нараджэньня Аляксандра Стагановіча і 20 гадоў ад сьмерці Марыі. Іхняя дачка, вядомая мастачка, што жыве ў ЗША, Тамара Стагановіч-Кольба, жадаючы ўшанаваць памяць пра бацькоў і падтрымаць непрыдуманую літаратуру, вырашыла заснаваць прэмію іхняга імя за кнігу ў гэтай галіне.

Прэмія мае быць уручаная ў 2015 г. за кнігі, надрукаваныя ў Беларусі на беларускай мове ў пэрыяд 2011—2014 гг.

Партнэрамі ў арганізацыі конкурсу і ўручэньні прэміі выступаюць: Беларускі інстытут навукі й мастацтва, ГА "Саюз беларускіх пісьменьнікаў", МГА "Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", выдавецтва "Лімарыус".

На прэмію могуць быць вылучаны кнігі, напісаныя ў галіне непрыдуманай літаратуры наступных жанраў:

- Мэмуары, успаміны, дзёньнікі, эпістолярная спадчына (ня толькі ўласныя, але й публікацыі чужых)
- Біяграфіі
- Травэлёгі (падарожныя нататкі)
- Дакумэнтальная проза

Трох пераможцаў конкурсу вызначыць кампэтэнтнае журы ў складзе:

- Старшыня сэкцыі непрыдуманай літаратуры ў Саюзе беларускіх пісьменьнікаў, сябра Управы ЗБС "Бацькаўшчына", галоўны рэдактар альманаху "Запісы БІНіМ", кандыдат гістарычных навук Натальля Гардзіенка
- Сябра Управы ЗБС "Бацькаўшчына", загадчык аддзелу старадрукаў і рэдкіх выданьняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь Валер Герасімаў
- Сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, кандыдат філялягічных навук Віктар Жыбуль
- Дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва Ганна Запартыка
- Літаратуразнаўца, сябра Беларускага ПЭН-цэнтру, старшы навуковы супрацоўнік Цэнтру дасьледаваньняў беларускай культуры, мовы й літаратуры НАНБ, кандыдат філялягічных навук Ганна Кісьліцына
- Літаратуразнаўца, сябра Беларускага ПЭН-цэнтру, супрацоўнік рэдакцыі часопісу "Маладосьць" Ціхан Чарнякевіч
- Дырэктар выдавецтва "Лімарыус" Марына Шыбко.

Агульны памер прэміі будзе падзелены паміж трыма пераможцамі, кожны зь якіх атрымае таксама дыплём і памятны мэдаль.

Правам намінаваньня на прэмію імя Аляксандра й Марыі Стагановічаў валодаюць як аўтары ці выдаўцы, так і члены журы конкурсу.

Пры вылучэньні кнігі на прэмію трэба да 19 студзеня 2015 г. перадаць у аргкамітэт папяровы ці электронны варыянт тэксту. Папяровыя выданьні трэба прадстаўляць у Саюз беларускіх пісьменьнікаў па адрасе: 220012, Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31–906. Электронныя вэрсіі выданьняў можна дасылаць на адрас: sbp@lit-bel.org. Пры перадачы ці дасылцы кніг на прэмію трэба рабіць адмысловую пазнаку "Прэмія А. і М. Стагановічаў".

Тэлефон для даведак: 8 (017) 200-80-91.

Імёны пераможцаў будуць абвешчаны ў красавіку 2015 г.

*Аргкамітэт*

# Юбілей Станіслава Шушкевіча



12 сьнежня сёлета споўнілася 80 гадоў Станіславу Шушкевічу, першаму кіраўніку незалежнай Беларусі, аднаму з трох удзельнікаў падпісаньня Белавежскіх пагадненьняў пра спыненьне існаваньня Савецкага Саюзу, што азначала фармальную ліквідацыю гэтай "імпэрыі зла". У часы дыктатуры Станіслаў Шушкевіч стаў у жорсткую апазыцыю да Лукашэнкі і бярэ актыўны ўдзел у палітычным жыцьці краіны.

Са сп. Шушкевічам я сустракалася год таму, мінулай зімой у штаце Аёва, дзе адбываліся ў мясцовым унівэрсытэце Дні беларускай культуры. Стаялі марозныя дні, у засьнежанай Аёве дарогі былі пакрытыя наледзьдзю, але сп. Станіслаў разам са сваім спадарожнікам і кіроўцам Віталём Воранавым на аўтамабілі праехалі немалую дарогу, каб дабрацца на сьвята, а потым ізноў вярталіся ў далёкі Канзас, дзе існуе Беларускі Цэнтр, заснаваны былым амбасадарам ЗША у Беларусі Дэвідам Суорцам. Сп. Суорц таксама прыехаў на сьвята са штату Індыяна, дзе цяпер жыве, і таксама пеарадолеў немалыя адлегласьці - 10 гадзін за рулём аўта па зімовай сьлізкай дарозе. Абодва яны ўжо не маладыя людзі, не паказвалі стомы, трымаліся бадзёра, радаваліся сустрэчы, бо некалі працавалі разам, і ім было што ўспомніць. А нам, прысутным пры гэтай сустрэчы, было цікава даведацца пра нейкія новыя факты і абставіны таго часу, калі пачала будавацца незалежная Беларусь.

Сп. Шушкевіч не шкадуе свайго часу і, галоўнае, сілаў і здароўя, бярэ самы дзейсны ўдзел у палітычным і грамадзкім жыцьці, выступае зь лекцыямі ў розных замежных краінах, у тым ліку і ў ЗША. Я сама сьведка таму, бо са сп. Шушкевічам таксама бачылася ў розных краінах пасьля майго ад'езду зь Беларусі.

Некалі я добра ведала бацьку сп. Шушкевіча, вядомага пісьменьніка, вязьня ГУЛАГа, жыцьцярадаснага, энэргічнага, мудрага чалавека, добрага сябра нашага Архіва-музэя літаратуры і мастацтва, дзе я працавала. І толькі пазьней пазнаёмілася зь ягоным сынам. Яны вельмі падобныя між сабою як зьнешне, так і характарам.

Сёлетняя зіма не абяцае сустрэчы зь юбілярам на амэрыканскім кантыненце. З-за акіяну пашлем ад імя амэрыканскіх беларусаў самыя цёплыя віншаваньні сп. Станіславу і пажадаем яму доўгага жыцьцёвага шляху на гэтай зямлі, добрага здароўя і сілаў у працы на беларускай палітычнай дзялянцы дзеля набліжэньня лепшай будучыні для нашай Бацькаўшчыны.

*Ганна Сурмач і Рэдакцыя газэты*

# Міхаіл Грабоўскі за беларускую мову

Вядомы беларускі хакеіст Міхаіл Грабоўскі - адзіны ў сёлетнім сезоне прадстаўнік Беларусі ў Нацыянальнай хакейнай лізе (НХЛ) заявіў у інтэрвію тэлеканалу СТБ, адказваючы на пытаньне, якое ў дзяцей грамадзянства — беларускае ці канадыйскае: «У дзяцей падвойнае грамадзянства. Гэта значыць, што я ім пашпарты зрабіў беларускія.

Вельмі хачу, каб яны кожнае лета прыязджалі, вучылі мову беларускую. Бо я ж адтуль і пачуваюся беларусам. Асабліва пасьля чэмпіянату сьвету гэта дакладна. Гэта важна".

Міхаіл зараз выступае за «Нью-Ёрк Айлендэрс», але доўгі час гуляў у Канадзе: за «Гамільтан» (чэмпіянат АХЛ, 2006—2008), «Манрэаль» (2006—2008) і найболей за «Таронта» (2008-2013). Мінулы сезон ён правёў у «Вашынгтоне».

# Візыт у Нью-Ёрк Уладыкі Сьвятаслава

20-21 сьнежня Катэдральны сабор Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку наведаў кіраўнік Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы (БАПЦ) мітрапаліт Сьвятаслаў у суправаджэньні старшыні Парафіі беларускай царквы ў Таронта і новаабранага кіраўніка Згуртаваньня беларусаў Канады сп. Зьміцера Эльяшэвіча. Уладыка прыехаў з Таронта дзеля паважных царкоўных справаў, галоўнаю зь іх было правядзеньне пасяджэньня Рады - кіруючага органа БАПЦ. Пасяджэньне адбылося 20 сьнежня ў будынку Сабору, былі разгледжаны актуальныя і бягучыя справы жыцьця Царквы.

На наступны дзень у нядзелю ў Саборы з удзелам Уладыкі Сьвятаслава адбылася Архіерэйская служба. Пад час службы Уладыка выканаў яшчэ адну значную ў жыцьці Парафіі дзею. У сан дыякана быў высьвечаны сп. Мікола Шчэрба, актыўны парафіянін, шчыры вернік, які ўжо працяглы час дапамагаў сьвятару айцу Івану адпраўляць набажэнствы ў храме і набыў патрэбныя тэарэтычныя і практычныя навыкі. Вернікі з радасьцю віталі падзею, якая павялічыла колькасны склад кліру Сабору і тым самым будзе спрыяць далейшаму разьвіцьцю Парафіі.





Пасьля Багаслужбы прысутныя накіраваліся ў царкоўна-грамадзкую залю, дзе ўжо ў больш вольнай атмасфэры віталі Уладыку Сьвятаслава і віншавалі яго зь нядаўнім 50-гадовым юбілеем ад дня народзінаў.

Царкоўная грамада таксама павіншавала а. Мікалая з пачаткам ягонага сьвятарскага служэньня ў якасьці дыякана і ад імя Парафіі яму была падаравана Сьв. Біблія на беларускай мове.

*Ганна Сурмач*

# Усебеларускі кангрэс за незалежнасьць




21 сьнежня ў Менску ў гатэлі «Вікторыя» адбыўся Усебеларускі кангрэс за незалежнасьць. Яго адкрыў старшыня ТБМ Алег Трусаў, які сказаў, што галоўная задача кангрэсу — прыняць маніфэст і сабраць мільён подпісаў грамадзянаў Беларусі ў яго падтрымку.

На кангрэс былі абраныя 72 дэлегаты, прыбылі 63 асобы. Адзін з арганізатараў патлумачыў адносна невялікую колькасьць дэлегатаў тым, што да апошняга часу былі праблемы з памяшканьнем, і арганізатары думалі праводзіць кангрэс на сядзібе БНФ, праз гэта колькасьць дэлегатаў была зьведзеная да мінімуму.

Алег Трусаў паведаміў, што Кангрэс будзе працаваць стала, прыкладна раз на квартал. У прыватнасьці, на бліжэйшых сэсіях мяркуецца разгледзець сытуацыю з чарнобыльскай праблемай і з замежнымі вайсковымі базамі на тэрыторыі Беларусі.

Кангрэс прыняў адмысловую заяву з трох пунктаў:

1. Пацьвярджаецца, што кангрэс становіцца стала дзейнай пляцоўкай для абмеркаваньня найбольш актуальных падеяў у Беларусі
2. Для каардынацыі дзеяньняў Кангрэсу абіраецца яго Рада ў складзе 15 чалавек.
3. Рада абірае каардынатара Кангрэсу для сувязі з грамадзтвам і ўладай.

У склад Рады, аднак, было абрана 17 асобаў, сярод іх - Алена Анісім, Сяргей Антончык, Уладзімір Арлоў, Радзім Гарэцкі, Лявон Дзейка, Уладзімір Колас, Аляксандар Мех, Аляксей Марачкін, Міхаіл Пастухоў, Алег Трусаў.

На кангрэсе было распачата падпісаньне Маніфэсту аб незалежнасьці. На думку арганізатараў, Маніфэст у абарону незалежнасьці стане дакумэнтам, які аб'яднае тысячы прыхільнікаў і абаронцаў беларускай дзяржаўнасьці.

# Весткі з Ангельшчыны

Сп. Міхась Швэдзюк даслаў наступную інфармацыю пра англамоўныя кнігі пра Беларусь:

- Беларусь: апошняя дыктатура Эўропы (Belarus: The last European dictatorship), аўтар Эндру Уілсан (Andrew Wilson)
- Апошняя дыктатура ў Эўропе: Беларусь пад уладай Лукашэнкі (The last dictatorship in Europe: Belarus under Lukashenko), аўтар Браян Бэннэтт (Brian Bennett) быў некаторы час брытанскім амбасадарам у Беларусі
- Апошняя імпэрыя: фінальныя дні Савецкага Саюзу ( The last Empire: The final days of The Soviet Union), аўтар Сяргей Плохі (Serhii Plokhy)

# Каляндар памятных датаў на студзень 2015 году

**1 студзеня** - 95 гадоў таму, у 1920 годзе, нарадзіўся Барыс Рагуля, дзеяч нацыянальнага руху, дзеяч эміграцыі ў Бэльгіі і Канадзе, віцэ-прэзыдэнт Рады БНР

**3 студзеня** - 110 гадоў таму, у 1905 годзе, нарадзіўся Уладзімір Хадыка, паэт

**4 студзеня** - 40 гадоў таму, у 1975 годзе, памёр Юрка Віцьбіч, пісьменьнік, дзеяч эміграцыі у Нямеччыне і ЗША

**6 студзеня** - 70 гадоў таму, у 1945 годзе, у Швэйцарыі памерла Магдалена Радзівіл, дзеячка культурнага руху, мецэнатка

**7 студзеня** - Каляды (Раство Хрыстова, па праваслаўным (юльянскім) календары

**7 студзеня** - 65 гадоў таму, у 1950 годзе, у Сіднэі пачаў дзейнічаць першы Беларускі клюб

**7 студзеня** - 20 гадоў таму, у 1995 годзе, памёр Мікола Панькоў, журналіст, бібліяфіл, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**8 студзеня** - 35 гадоў таму, у 1980 годзе, памёр Кастусь Кіслы, кампазытар, музыкант, дырыжор, дзеяч эміграцыі у Бэльгіі і ЗША

**13 студзеня** - 130 гадоў таму, у 1885 годзе, памёр Іван Хруцкі, мастак

**20 студзеня** - 110 гадоў таму, у 1905 годзе, нарадзіўся Ян Пятроўскі, рэлігійны дзеяч, літаратар, выдавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Аўстрыі і ЗША

**20 студзеня** - 60 гадоў таму, у 1955 годзе, памёр Лукаш Дзекуць-Малей, грамадзкі і рэлігійны дзеяч

**26 студзеня** - 25 гадоў таму, у 1990 годзе, Вярхоўны Савет БССР абвясьціў беларускую мову адзінай дзяржаўнай у Беларусі

# Заходнія журналісты вырашылі расьследаваць, адкуль дыктатар Лукашэнка атрымлівае мільярды

20 гадоў таму Аляксандр Лукашэнка быў абраны прэзідэнтам Беларусі. Прэзідэнцкую пасаду ён займае даўжэй за ўсіх у Эўропе. Існуе меркаваньне, што ў гэтым яму дапамагае камбінацыя сацыяльнай справядлівасьці і аўтарытарызму: строгі, але справядлівы. Як паказаў наш аналіз грашовых плыняў, якія цыркулююць у беларускай эліце, гэты пункт гледжаньня вельмі далёкі ад праўды.

Спадар Лукашэнка і ягоныя сябры ўстанавілі ў Беларусі клептакратычны рэжым - амаль як у Расеі, толькі меншы памерам. Апазіцыя аслабла не ў выніку ягонага клопату аб народзе, а пасьля жорсткіх рэпрэсій. Нягледзячы на санкцыі Эўропы, бізнэс лукашэнкаўскай групоўкі цалкам забясьпечваецца за кошт афшорных схем. І, вядома, за кошт простых беларусаў.

Беларусь - краіна памерам зь Вялікабрытанію, дзе жыве столькі ж чалавек, колькі ў Бэльгіі. Сёньня Беларусі надаецца менш увагі (прынамсі, у Інтэрнэце), чым Андоры, закінутай у Пірэнэях дзяржаве-карліку. Але сытуацыя імкліва зьмяняецца. У жніўні Менск узяў на сябе ролю пасярэдніка ў расейска-ўкраінскім канфлікце. У наступным годзе ў Беларусі пройдуць прэзідэнцкія выбары - тэст ня толькі на палітычную стабільнасьць у краіне (за час кіраваньня Лукашэнкі вынікі ўсіх выбараў былі сфальсіфікаваныя), але і на гатоўнасьць урада сустрэць пратэстоўцаў, як і раней, з дубінкамі і кайданкамі.

Калі эўрапейскія журналісты, заканадаўцы і простыя грамадзяне хочуць хоць штосьці разумець ва Усходняй Эўропе праз 10 гадоў, ім спатрэбіцца значна больш інфармацыі пра Беларусь.

Для аналізу грашовых плыняў мы выкарыстоўвалі публічныя крыніцы. Аб злачынствах, учыненых беларускімі кашалькамі цягам апошніх дваццаці гадоў, напісана шмат, але дагэтуль не было ніводнага сістэмнага аналізу наяўнай інфармацыі. Мы паспрабавалі разьвязаць гэты рэбус. Наш аналіз паказвае беларускі рэжым у новым сьвятле. У той жа час цалкам разабрацца ў сытуацыі немагчыма - занадта ўжо складаныя махінацыі. Каб дапамагчы журналістам і назіральнікам, мы апублікавалі базу зьвестак асобаў і кампаній на сайцеDetective.io/detective/belarus networks. Большая частка спасылак у артыкуле вядзе да гэтай базы зьвестак. Такім чынам, мы хочам даць чытачу магчымасьць уважліва вывучыць нашыя крыніцы.

«Ненавіджу Беларусь», - заявіла дачка Уладзіміра Пефціева ў 2011 годзе, падчас візіту на радзіму свайго бацькі. Сама яна вырасла на Мальце, дзе Пефціеў асталяваўся на пачатку 2000-х. Мальта - краіна ЭЗ, якую часта называюць падатковым раем. У 2007 годзе Пефціеў вярнуўся ў Беларусь, мабыць, на загад Лукашэнкі. Для ягонай дачкі вяртаньне на радзіму стала сапраўднай трагедыяй (сёньня яна жыве ў ЗША). Пачынаючы з 90-х і цягам амаль дваццаці гадоў Пефціеў быў самым уплывовым бізнэсоўцам краіны. Паводле розных ацэнак, розныя махінацыі прынесьлі яму больш за мільярд даляраў. Але ў адрозьненьне ад расейскіх алігархаў Рамана Абрамовіча і нябожчыка Барыса Беразоўскага, які жыў у Лёндане, Пефціеў заўсёды быў у полі зроку Лукашэнкі.

Кар'ера Пефціева пачалася ў 1993 годзе, калі ён заснаваў супольнае прадпрыемства Белтэхэкспарт. Кампанія займалася продажам узбраеньня, што засталося ў краіне пасля раскіданьня СССР (а за савецкім часам Беларусь адыгрывала адну з ключавых роляў у вайсковай прамысловасьці). Зброю прадавалі ўсім ахвотным. Затым да ўлады прыйшоў Лукашэнка, шмат у чым дзякуючы сваёй перадвыбарнай кампаніі, дзе ён абяцаў змагацца з карупцыяй. Пефціеў неадкладна пераключыўся зь Вячаслава Кебіча, які ў той час быў прэм'ер-міністрам, на клан Лукашэнкі. У той жа час ён зблізіўся з Віктарам Бутам, вядомым дзялкам на рынку зброі.

Белтэхэкспарт пастаўляў зброю і амуніцыю ў шэраг краін, прынамсі, у Кітай і, з чутак, у Паўночную Карэю. Акрамя таго, Белтэхэкспарт удзельнічаў у продажы баявых самалётаў для войска Лаўрэнта Гбаго, у той час - прэзідэнта Кот-д'Івуара. Тыя ж самыя самалёты ў 2004 годзе разбамбілі базу францускага войска ў Буацы - 9 загінулых, дзясяткі параненых. Ня далей як у 2007 годзе дырэктар Белтэхэкспарту адзначыўся ў скандале з дэталямі МіГ-29, што нелегальна накіроўваў у Бангладэш, якія выявілі ў Латвіі.

Паралельна з продажам савецкай зброі Пефціеў разьвіваў і іншыя кірунькі свайго бізнэсу. У 1998 годзе ён стаў адным з заснавальнікаў супольнага прадпрыемства МЛС (Мабільныя Лічбавыя Сістэмы) - уладальнікам «Velcom», які з часам стаў найбуйнейшым мабільным аператарам краіны. Затым Пефціеў пашырыў партфолёе, дадаўшы да свайго падкантрольнага холдынгу «Белтэх» завод «Аквадзіў».

Але і гэта ня ўсё: разам са старэйшым сынам прэзідэнта Дзмітрыем Лукашэнкам таленавіты прадпрымальнік заснаваў латарэю «Спорт-Пары». Жонку Дзмітрыя Лілію Пефціеў уладкаваў дырэктарам фінансавай кампаніі «Eastleigh Trading». Такім чынам, моцна прывязаўшы сям'ю Лукашэнкі да свайго бізнэсу, Пефціеў гарантаваў сабе волю. І ўсё ж ніхто не мог гарантаваць, што Пефціеў не патрапіць у няласку.

Адрозна ад большасьці постсацыялістычных краін, у Беларусі няма клясічных алігархаў, якія зрабілі багацьце на прыватызацыі, хоць бы таму, што татальнай прыватызацыі ў Беларусі не было. Іншая прычына - гэта савецкі падыход да ўласнасьці і ролі дзяржавы ў ёй: усё вакол дзяржаўнае, і дзяржава можа распараджацца сваёй маёмасьцю на сваё меркаваньне. А дзяржава - гэта Аляксандр Лукашэнка, значыць, ён можа раздаваць фабрыкі і заводы сваім сябрам, як толькі яму заманецца. Гэтая сытуацыя натхніла амэрыканскага навукоўца Эндру Уілсана на стварэньне новага тэрміна «мінігархі» - заможныя беларусы.

Да прыкладу, Лукашэнка ўласнаручна перадаў завод вітамінных канцэнтратаў - дзяржаўную ўласнасьць коштам 7 мільёнаў эўра - кампаніі Мікалая Вараб'я «Інтэрсэрвіс». Нічога дзіўнага ў гэтым няма, бо Варабей - блізкі сябар Лукашэнкі.

Дзяржава забірае столькі ж, колькі і дае. Падрабязнасьці гэтых угод знайсьці нялёгка, галоўным чынам таму, што ў іх замяшаныя кампаніі з брытанскіх афшорных зон, якія не выдаюць імёны ўладальнікаў. Тым ня менш, ёсьць усе падставы меркаваць, што некалькі намінальна прыватных кампаній дзейнічаюць ад імя дзяржавы. Тыповы таму прыклад - так званая схема распушчальнікаў.

У рамках асобнага пагадненьня Расея гарантавала Беларусі права купляць расейскую нафту бяз мытаў. У абмен на льготы Беларусь абавязалася плаціць у расейскі скарб адсотак з продажу нафтапрадуктаў. Іншымі словамі, Расея забясьпечвала беларускую нафтапрамысловасьць. Кампаніі, што імпартавалі нафту з Расеі, скарысталіся выпадкам і пачалі экспартаваць распушчальнікі, якія не ўважаюцца за нафтапрадукты, выробленыя з расейскай сыравіны. Такім чынам яны здалелі ўнікнуць мыт.

Паводле розных ацэнак, толькі ў 2012 годзе беларускія прадпрымальнікі зарабілі на гэтай схеме блізу 1,5 млрд даляраў. Гэта прыкладна палова беларускага УБП за 2012 год. Усе кампаніі, залучаныя ў гэтую схему, у той час належалі топ-мінігарху Юрыю Чыжу і Вараб'ю. Лукашэнка здолеў сьцерці мяжу паміж дзяржаўнымі мытнымі зборамі і прыватным прыбыткам.

У Беларусі больш ніхто не давярае дакумэнтам, якія пацьвярджаюць уласнасьць. Лукашэнка даў зразумець, што беспярэчнае падпарадкаваньне яму або ягоным сынам - абавязковая ўмова для ўсіх, хто хоча разбагацець. Каб дашчэнту здушыць усе спробы здабыць незалежнасьць, ён рэгулярна кідае за краты сваіх «партманетаў» і ўсяляк падтрымлівае канкурэнцыю паміж імі. Андрэй Шырай, да прыкладу, быў адным са стваральнікаў кантрабанднай схемы, якая наўпрост вяла да прэзідэнцкай адміністрацыі. Гэта не выратавала яго ад турмы. У 2000-я гады ўсе дырэктары кампаній гандлю зброяй (гандаль зброяй - беларускі цымус), акрамя Пефціева, былі арыштаваныя і прысуджаныя да турмы. Паводле некаторых крыніц, нават сам Чыж, які сёньня знаходзіцца сярод фаварытаў, не ўнікнуў арышту і турмы ў 2010 годзе.

### Замежныя сувязі

У пэўных колах мяркуецца, што Лукашэнка займаецца пошукамі аўтаркічнага брэнда для сваіх суграмадзян. Аднак гэта зусім не так.

Сытуацыя з прыватнымі грашовымі плынямі зусім іншая. Продаж мабільнага аператара «Velcom» - выдатны прыклад супрацоўніцтва сябрукоў Лукашэнкі з замежнымі фінансістамі, зацікаўленымі эўрапейскімі структурамі і афшорным зонамі. У 2007 годзе кампанія перайшла ва ўласнасьць аўстрыйскага «Mobilkom», вартасьць угоды - мільярд еўра. Група беларусаў, сірыйцаў і аўстрыйцаў нябла га забагацела.

Пефціеў заснаваў «Velcom» у 1998 годзе праз кампанію Белтэхэкспарт разам са швайцарскай кампаніяй SBT, якая належала братам Самаві, выхадцам з Сірыі. Каб унікнуць тэндэру, Белтэхэкспарт прадаў свае акцыі SBT за 400 мільёнаў еўра. SBT, у сваю чаргу, прадаў акцыі кампаніі Telekom за 690 млн еўраў. Чысты прыбытак 300 мільёнаў еўра толькі за пару дзён. Надзвычай выгадная ўгода стала толькі па-чаткам працы братоў Самаві ў Беларусі. Яны інвеставалі ў шэраг будаўнічых праектаў у Менску праз кіпрскі афшор. Сын аднаго з братоў Самаві Халед, уладальнік папулярных галерэй у

Працяг на 11-й бачыне

Праця з 10-й бачыны

Лёндане, Бэйруце і Дубаі, з дапамогай нявесткі самога Лукашэнкі адкрыў у Менску карцінную галерэю. Калі мы зьвязаліся з Халедам Самаві праз электронную пошту, ён не пацьвердзіў гэтую інфармацыю; тым ня менш, яе пацьвердзілі беларускія журналісты, якія першымі паведамілі пра галерэі.

Яшчэ адзін ключавы гулец у продажы «Velcom» - Марцін Шлаф, венскі бізнэсовец з сувязямі ў аўстрыйскіх урадавых структурах і ўсходнеэўрапейскім андэграўндзе. Ён арганізаваў продаж «Velcom» у 2007 годзе і за адным скрыпам выпісаў чэк на свае паслугі кансультанта - 1,8 мільёнаў эўра. Гэта быў ня першы беларускі праект Шлафа. У 2002 годзе ён дапамагаў арганізоўваць зімовыя вакацыі Лукашэнкі ў аўстрыйскіх Альпах. Аўстрыйскі Алімпійскі Камітэт афіцыйна запрасіў дыктатара ў якасьці кіраўніка Беларускага Алімпійскага камітэта. Нягледзячы на свой афіцыйны статус, Лукашэнка сустрэўся з кіраўніком сеткі Casinos Austria Леа Вальнэрам (у той час кіраўнік Алімпійскага камітэта) для бізнэс-перамоў. "Мы дзейнічалі ў інтарэсах аўстрыйскай эканомікі"- пазьней заявіў Вальнэр.

Пасля прэзыдэнцкіх выбараў 2001 году офіс АБСЕ ў Менску быў закрыты, і беларускі ўрад прыняў пастанову не працягваць тэрміны дзеяньня візаў назіральнікам АБСЕ. Пасля гэтай пастановы ЭЗ і ЗША замарозілі актывы 50-ці беларускіх чыноўнікаў найвышэйшага рангу, уключна з Лукашэнкам, і забаранілі ім уезд у свае краіны.

Санкцыі былі зьнятыя ў канцы 2003 года ў якасьці знака добрай волі, затым зноў уведзеныя ў 2006 годзе пасьля прэзыдэнцкіх выбараў, затым зноў зьнятыя ў 2008 годзе ў абмен на вызваленьне палітвязьняў. Пад час такога дзейснага выкарыстаньня санкцый у якасьці бартэру зьявілася меркаваньне, што санкцыі даюць вынік.

Тым ня менш, у канцы 2010 года пасьля чарговых сфабрыкаваных выбараў беларускі рэжым жорстка здушыў апазыцыйны пратэст. Узровень жорсткасьці перасягнуў усе разгоны дэманстрацый у 90-я. У адказ на дзеяньні рэжыму ЭЗ узмацніў санкцыі, забараніў уезд у Заходнюю Эўропу ўсім уцягнутым у рэпрэсіі асобам і замарозіў іхныя рахункі ў эўрапейскіх банках.

Забарона на ўезд працуе: шмат якім высокапастаўленым чыноўнікам было адмоўлена ў візе. Аднак замарожаныя актывы не спынілі рабаваньне нацыянальных рэсурсаў Беларусі і адток прысвоеных сродкаў у эўрапейскі бізнэс. У 2012 годзе Пефціеў усё яшчэ выкарыстоўваў сваю мальтыйскую кампанію. Афшорныя кампаніі, напрыклад, тыя, што разьмяшчаюцца на брытанскіх Віргінскіх выспах (гэтыя выспы не ўваходзяць у ЭЗ, але падпарадкоўваюцца дзяржаве-чальцу ЭЗ), даюць беларускім бізнэсоўцам магчымасьць беспакарана апераваць у ЭЗ. Як адзначаюць амэрыканскія дыпляматы, асобы, якія падпадаюць пад санкцыі, і асобы, якія могуць дапоўніць чорны сьпіс, выкарыстоўваюць сваіх дзяцей для бізнэсу ў Эўропе. Да прыкладу, дачка былога прэм'ер-міністра Сяргея Сідорскага, з чутак, была ўцягнутая ў бізнэс адмываньня грошай у Нямеччыне.

Эўрапейскія ўрады абараняюць інтарэсы пэўных карпарацый, яшчэ больш зьніжаючы дзейснасьць санкцый. Напрыклад, у 2012 годзе Славенія актыўна перашкаджала ўключэньню Чыжа ў чорны сьпіс. Кампаніі Чыжа былі зьвязаныя са славенскім дзялком Янэзам Шкрабцом, кіраўніком будаўнічай кампаніі «Рыка». Чальцы францускага парлямэнта наведалі Менск у 2013 годзе, каб прасоўваць інтарэсы францускіх карпарацый, як, напрыклад, будаўнічая кампанія Bouygues. Мяркуецца, што зацікаўленасьць францускіх карпарацый у Беларусі зьмякчае дыпляматычную пазыцыю Францыі ў дачыненьні да Лукашэнкі. Мы паспрабавалі зьвязацца з Радай ЭЗ, каб даведацца, якіх пазыцый пільнаваліся чальцы ЭЗ падчас перамоваў пра санкцыі, але нам было адмоўлена ў інфармацыі.

Некаторыя санкцыі ўсё ж даюць эфэкт. Анатоль Тарнаўскі, адзін з бізнэсоўцаў з «чорнага сьпісу», падаў пазоў у кіпрскі суд пасля канфлікту з адным расейскім алігархам. Адна з кампаній Тарнаўскага, разьмешчаная на Брытанскіх Віргінскіх выспах, мае даччыную кампанію на Кіпры, якая, у сваю чаргу, мела актывы ў Расеі. Іншымі словамі, адзінай сувязьзю з ЭЗ было месца рэгістрацыі кампаній - Кіпр. У красавіку 2013 года Вярхоўны суд Кіпра пастанавіў, што Тарнаўскі не меў права рэгістраваць кампаніі на Кіпры, бо гэта дало б яму магчымасьць займацца бізнэсам у ЭЗ.

Шмат хто ўважае мэтавыя санкцыі за вельмі дзейсны сродак, асабліва ў пытаньні палітвязьняў. Час пакажа, ці будзе Эўропа выкарыстоўваць гэты інструмент далей, улічваючы што Лукашэнка ўзяў на сябе ролю «сумленнага пасярэдніка» ў вайне Расеі супраць Украіны.

*Паводле сайту Charter97*
*17 астрычніка 2014*

# Сьветлай памяці Міхась Белямук



31 кастрычніка ў Кліўляндзе памёр вядомы дзеяч беларускай эміграцыі Міхась Белямук. Увесну ён адзначыў сваё 90-годзьдзе.

Міхась Белямук нарадзіўся 15 сакавіка 1924 у вёсцы Голя (сёньня гэта Камянецкі раён Берасьцейскай вобласьці). Пад час вайны ўлетку 1944 года разам з многімі іншымі ўдзельнікамі беларускага нацыянальнага руху пад акупацыяй вымушаны быў назаўсёды пакінуць Бацькаўшчыну і выехаць у эміграцыю на Захад . Апынуўся ў беларускіх лягерах для перамешчаных асобаў у заходняй Нямеччыне, дзе браў самы дзейсны ўдзел у грамадзкім жыцьці беларускай эміграцыі. У 1949 годзе пераехаў у ЗША.

У Амэрыцы сп. Міхась стараўся атрымаць вышэйшую адукацыю, вучыўся на гістарычным факультэце ўнівэрсытэта ў Каламбусе (Агаё).

Міхась Белямук быў адным з арганізатараў беларускага жыцьця ў Кліўляндзе, закладальнікам мясцовага аддзела Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. З 1954 года быў старшынём Аб'яднаньня беларускай моладзі ў Кліўляндзе.

У 1991 годзе пачаў выдаваць гістарычны часапіс «Полацак». Быў аўтарам шэрагу публікацый на гістарычныя тэмы, ганаровым сябрам Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі. Напісаў і выдаў кнігу ўспамінаў «Свайго лёсу не мінеш» (Вільня, 2006).

Шмат намаганьняў сп. Белямук прыкладаў дзеля царкоўных справаў на чужыне, быў шчырым вернікам і актыўным парафіянінам.

У 1992 годзе ўпершыню пасьля ад'езду ў выгнаньне наведаў Бацькаўшчыну, пра свае пачуцьці ўзгадваў так: "Мая незабыўная сустрэча з Бацькаўшчынай пасьля 50 гадоў 13 лютага 1992 году а 8-й гадзіне раніцы, калі я цягніком з Варшавы прыехаў у Менск. Спатыкалі зь кветкамі і бел-чырвона-белымі сьцягамі. Прыступ радасьці напоўніў мяне, я ўкленчыў, перахрысьціўся, пацалаваў беларускую зямельку". А вось свой апошні супачынак сп. Міхась знайшоў у амэрыканскай зямлі, дык няхай яна будзе яму не менш цёплай, чым родная - беларуская.

Ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня выказваем глыбокі смутак з нагоды адыходу ў вечнасьць сп. Міхася Белямука, аднаго з актыўных прадстаўнікоў старэйшага пакаленьня эміграцыі ў ЗША. Шлем самыя шчырыя спачуваньні ўдаве сп-ні Тамары, вернай спадарожніцы і ахвярнай беларускай жанчыне, што даглядала мужа цягам доўгай і цяжкай хваробы і была са сп. Міхасём да апошняй хвіліны ягонага жыцьця.

*Старшыня Галоўнай управы БАЗА*
*Ганна Сурмач*

# Спачуваньне

Парафіяльная Рада Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага выказвае самыя шчырыя спачуваньні і словы падтрымкі вернікам нашай царквы сп. Валянціне Балашчанка, сп. Ларысе Пузач і сп. Віталю Пузачу з нагоды адыходу ў вечнасьць іх маці і бабулі сп. Надзеі Рагойшы, якая памерла на 91 годзе жыцьця. Сп. Надзея належала да старэйшага пакаленьня вядомай у Беларусі сямьі Рагойшаў. Пахаваная на беларускіх могілках блізу Нью Брансуіка. Няхай будзе лёгкаю ёй амэрыканская зямля. Вечная памяць!

# Сустракайма Каляды і Новы, 2015, год!



## Беларуская ялінка на міжэтнічнай выставе ў ЗША

У амэрыканскім горадзе Нью-Брансўік у штаце Нью-Джэрзі, у вэнгерскім культурным цэнтры, штогоду перад Калядамі адбываецца ўрачыстасьць, у праграму якое ўваходзіць паказ ялінак розных этнічных групаў. Пяюцца таксама калядкі.

Дваццаць пяць гадоў ужо як беларуская праваслаўная царква Жыровіцкай Маці Божай, што знаходзіцца ў горадзе Гайленд-Парк побач зь Нью-Брансўікам, бярэ ўдзел у гэтай каляднай урачыстасьці. Удзел у паказе ялінак быў запачаткаваны нябожчыцай Галінай Русак ды працягваецца старaньнямі Сяргея Трыгубовіча. Сярод дзясятка ялінак на сёлетнім паказе стаіць і беларуская, удэкараваная аздобамі, таленавіта зробленымі ў Беларусі выключна з саломкі. Каля ялінкі стаіць табліца з апісаньнем нашай каляднай куцьці. Сярод ялінак - італьянскае, грэцкае, японскае ды іншых - беларуская глядзіцца вельмі прывабна. Яна будзе сьведчыць пра Беларусь на працягу наступных трох тыдняў.

*Я.З.,*
*Здымак Сержа Трыгубовіча.*

## Віншаваньні

*З Раством Хрыстовым! Будзьце дабраславены Богам, здаровы і шчасьлівы!*
*З павагай, Аляксей Фралоў (Менск)*

***

***Прыміце мае шчырыя вітаньні з нагоды наступленьня Новага, 2015, Году і Калядаў! Жадаю ўсяму калектыву газэты"Беларус" у Новым годзе новых творчых здабыткаў, шчасьця ў асабістым і сямейным жыцьці, моцнага здароўя!!!***

*З павагай, Пятрусь Капчык, кіраўнік Згуртаваньня беларускай культуры "Зорка Венера" /Ізяслаў, Украіна .*

## Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня віншуе

сяброў БАЗА і ўсіх , хто адчувае сябе беларусам на чужыне, са сьветлымі Калядамі і з надыходам Новага, 2015, году. Шчасьця, спакою, дабрабыту, моцнага здароўя ўсім вам, вашым сем'ям, сябрам і паплечнікам!

Ва ўсіх нашых паўсядзённых клопатах не будзем забываць і надалей пра наш важны абавязак - падтрымоўваць нацыянальнае грамадзкае жыцьцё ў Амэрыцы, даглядаць нашыя беларускія асяродкі і цэрквы, дапамагаць Бацькаўшчыне, аказваць узаемадапамогу і падтрымку адзін аднаму, захоўваць сваю чалавечую годнасьць і нацыянальную сьвядомасьць.

## Парафіяльная рада Катэдральнага сабору Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ віншуе

вернікаў нашай царквы, вашых родных і блізкіх са Сьвятам Божага Нараджэньня - сьвятымі Калядамі, а таксама з надыходзячым Новым годам. Жадаем вам, дарагія суайчыньнікі і нашы браты па веры, Боскай дапамогі і спрыяньня ва ўсіх вашых справах і клопатах, добрага здароўя і аптымістычнага настрою, спакою ў душы, міру і ўзаемапавагі між сабою.

**Хрыстос нараджаецца! Славім яго!**



## На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Яўген Груша (Аўстралія) | $ 50 |
| Фанік Корбут (Аўстралія) | $ 50 |
| Аляксандр Кот (Канада) | $ 115 |
| Алена Сенько (Англія) | $ 100 |
| Марыя Сухоцкая (Чыкага) | $ 50 |
| Янка Шыбут (ЗША) | $ 50 |
| Барыс Кірка (Канада) | $ 25 |
| Лявон Алежка (Канада) | $ 20 |
| Анна Жызнеўскі (Чыкага) | $ 60 |
| Сільвестр і Каталін Будкевіч (Англія) | $ 60 |
| Міхась Швэдзюк (Англія) | $ 50 |

**Вялікі дзякуй усім ахвярадаўцам!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
*Belarusan American Ass'n, Inc.*

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Алена Высоцкая – адказная за кампутарную вёрстку
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
*Hazeta Bielarus*
*166-34 Gothic Drive*
*Jamaica, NY 11432*
*USA*

**Грашовыя чэкі выпісваць на імя :** *BIELARUS newspaper* дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.

**Электронны адрас (email):** bielarus@bazahq.org